Новы спеўнік Сцяпана Копы ➔3



Падляшскія татары ➔4





# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 09 (2910) Год LVII Беласток, 26 лютага 2012 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Марылька жыве ў нашай памяці



На спатканні прысутнічалі сямейнікі Марылькі (злева) муж Юрый Саснюк, сын Давід Саснюк, мама Лідзія Базылюк і сын Якуб Саснюк



Ініцыятары выдання кніжкі Барбара Пякарская і Мікола Ваўранюк

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**Сустрэча, наладжаная 18 лютага ў музеі ў Бельску-Падляшскім з нагоды прэзентацыі кніжкі „Марылька", у час якой прагучала многа вельмі цёплых слоў накіраваных у бок памерлай 16 гадоў назад Марылі Базылюк-Саснюк паказала, што паэтэса і настаўніца беларускай мовы ўвесь час жыве ў памяці яе сям'і, сяброў і знаёмых. Вялікая музейная зала запоўнілася бяльшчанамі і прыезджымі так, што многім прыйшлося стаяць ззаду. Яшчэ да прамоцыі кніжкі частка сабраных спаткалася ў час паніхіды, адслужанай у Міхайлаўскай царкве ў Бельску, у час якой маліліся за ўпакаенне душы памерлай, а пасля наведалі яе магілу. У час спаткання ў ратушы, наладжанага аб'яднаннем АБ-БА з Беластока, бельскім музеем і знаёмымі Марылі, перад сабранымі выступілі гурты „0-85" з Беластока і „Людзі на балоце" з Гродна.**

— Марылька была вельмі прыгожай дзяўчынай, уражлівай, цёплай і сардэчнай жанчынай, бескарысным і чэсным чалавекам. Не было ў яе зайздрасці, заўсёды адкрывала сваё сэрца на іншых, ад яе разыходзілася радасць жыцця, — успаміналі сябры і знаёмыя Марылі.

— Ідэя выдаць кніжку з вершамі Марылі Базылюк і ўспамінамі аб ёй узнікла прыблізна чатыры гады таму. Атрымалі мы згоду яе сям'і і пачалі збіраць вершы, старыя фатаграфіі і ўспаміны. Калі пачалі працаваць над кніжкай, работа крыху зацягнулася. Да яе канчатковага выгляду спрычыніласа многа людзей. Вялікую рэдактарскую працу выканаў Мікола Ваўранюк, які сабраў матэрыялы пра Марыльку і напісаў успамін аб ёй, — сказала Барбара Пякарская, старшыня аб'яднання АБ-БА. Спатканне ў паўзмрочнай зале з падсветленым вялікім здымкам Марылі, які ўпрыгожвае вокладку кніжкі, пачалося з песні на словы верша гераіні спаткання ў выкананні дуэта гурту „Людзі на балоце" з Гродна.

— Мы выдалі кніжку пра незвычайнага чалавека. Марылька была нашым сябрам і настаўнікам. Сюды прыйшлі тыя, якіх спаткала яна на жыццёвым шляху. Калі гляджу на залу і бачу, колькі людзей тут сабралася, то я ўпэўнены, што варта было ўзяцца за выданне кніжкі, — заявіў тэлежурналіст, добры знаёмы Марылі, Мікола Ваўранюк, вядучы спаткання. Назваў ён ініцыятараў і спонсараў выдання кніжкі — Барбару і Міраслава Пякарскіх, якім дапамагалі Лявон Тарасэвіч, Юрка Асеннік і Павел Гжэсь.

— Ствараючы праект вокладкі я лічыў, што Марылька павінна быць на ёй радаснай, якой запамяталася нам, — сказаў перад сабранымі Лявон Тарасэвіч.

— Як цяжка спяваць у гэты вечар, але пасля многіх гадоў мы ізноў разам, — сказаў Юрка Асеннік у час канцэрта гурту „0-85" у гонар Марылькі.

— Можна было б змясціць у кніжцы намнога больш вершаў, але я выбраў самыя лепшыя творы, з розных перыядаў жыцця Марылькі, — гаварыў Мікола Ваўранюк.

Вакаліст Алесь з гурту „Людзі на балоце" заспяваў песні на словы Марылькі і прачытаў яе вершы з новавыдадзенай кніжкі. Кніга „Марылька" гэта ў асноўным збор раней недрукаваных вершаў Марылі Базылюк, успамін Міколы Ваўранюка пра паэтэсу, архіўныя фатаграфіі з жыцця настаўніцы беларускай мовы, фрагмент вельмі цікавай яе магістарскай працы і яе дакументы.

— Ніхто ў нас у васьмідзесятых гадах не цікавіўся малымі айчынамі, а Марылька рашылася напісаць магістарскую працу пра літаратурнага крытыка Яўгена Хлябцэвіча з Кленік, які пісаў у „Нашую ніву" пра Бельск, Кленікі, ці Заблудаў, — сказаў Мікола Ваўранюк.

Нававыдадзенай кніжкай задаволеныя дзеці Марылі Базылюк, муж Юрый Саснюк, і маці Лідзія Базылюк, якія былі прысутнымі на спатканні.

— Можа мама зверху сочыць за нашым спатканнем, — заявіў наймалодшы сын Марылькі, Якуб, і пахваліў выданне за трапна падабраныя вершы і здымкі. Адначасна сказаў ён, што яму не хапіла ў новай кніжцы ўспамінаў людзей, якія ведалі маму, захоўваюць яе ў памяці і запрапанаваў дасылаць успаміны на яго электронны адрас. Пасля сустрэчы Сяргей Мартыновіч з Орлі заявіў, што мае намер напісаць свае асобныя ўспаміны аб сяброўцы. Марыля Базылюк у дзяцінстве жыла на хутары Абезянава вёскі Кленікі. Закончыла падставовую школу ў Кленіках, бельскі белліцэй і беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце. Належала да Беларускага аб'яднання студэнтаў у Варшаве і дзейнічала ў беларускім руху на Беласточчыне. Працавала настаўніцай беларускай мовы ў Кленіках, а пазней настаўніцай у бельскай „тройцы". Адышла ў вечнасць пасля цяжкай хваробы.

— Марылька верыла да канца, што выздаравее. Не выяўляла нават думкі, што можа памерці, — успамінаў яе муж Юрый Саснюк.

— Кніжка пра Марыльку, гэта для мяне вельмі добрая памятка, якую я чытаю пачынаючы яшчэ з Раждажства, — сказала маці Лідзія Базылюк.

Калі памерла Марыля, асталіся чацвёра яе дзетак. Блізняткам, Давіду і Ксені, было па 5 гадзікаў, Якубу толькі 4 гады, а Міхасю 10 гадоў і побач бацькі даглядала за імі перш за ўсё бабуля Лідзія.

— Мама была для нас цэнтрам жыцця і заўсёды ставілася да нас з вялікай увагай, — успаміналі Марылю яе дзеці.

— Я мала памятаю маму, але асобы, якія яе ведалі, успамінаюць пра маму самае добрае і кажуць, што была яна вельмі добрым чалавекам. Цешыць нас, што пасля 16 гадоў людзі памятаюць нашу маму. Сэрца сціскаецца, калі бачу, як многа людзей сабралася на прэзентацыі кніжкі аб маме, — сказаў сын Давід Саснюк.

— Марыя (з такім імем была ахрышчана) была ўвасабленнем дабра і мы павінны браць з яе прыклад, — сказаў пасля паніхіды мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк.

— Я пазнаёміўся з Марылькай, калі яна вяла ў „тройцы" пазаўрочныя заняткі па беларускай мове. Марылька і яе вучні былі першымі асобамі, якія прыбіралі і парадкавалі старую хату майго дзядзькі, прызначаную на наш музей, якая яшчэ стаяла на старым месцы, — расказваў старшыня аб'яднання „Музей малой айчыны ў Студзіводах" Дарафей Фіёнік. — Жыла Марылька беларускімі справамі. У яе быў асаблівы падыход да дзетак, якія вельмі ахвотна акружалі яе.

— Шмат можна было даведацца ад Марылькі пра беларушчыну. Вучыла нас беларускай гісторыі і прасіла не цурацца сваёй мовы. Была яна таксама настаўніцай жыцця, добрым чалавекам, у іншых бачыла найчасцей добрых людзей, — успаміналі яе вучні.

Сябры і знаёмыя Марылькі гаварылі, што для равеснікаў і малодшага пакалення была яна сяброўкай і настаўніцай. Паказала як цаніць роднае, беларускае.

— Марылька была асобай, якая давала іншым вельмі многа, а нічога не брала ўзамен. Яна паказвала нам, тадышнім студэнтам, што трэба рабіць, каб да нечага дайсці. Калі мы дабіліся нечага, рашыліся асабліва ўшанаваць Марыльку, выдаць кніжку аб ёй, — заявіў пасля спаткання адзін са спонсараў выдання Міраслаў Пякарскі.

9770546196000



# Беларускі тэст на інтэлект

Цікавая рэч інтэлектуальныя гульні. Не, не інтэрактыўныя, дзе мадэратар прыводзіць аўдыторыю да захапляльных высноў, якія пасля аб'яўляюцца правільнымі, бо нібыта выпакутаваныя калектыўным розумам. Інтэлектуальныя гульні гэта нават не тэсты на IQ, дзе балы набраныя па адной сістэме супярэчаць балам, набытым іншым метадам. Інтэлектуальныя гульні вельмі падобныя да загадкі, дзе ісціна ўжо вядомая таму, хто загадку задае. А таму, каму задаюць, застаецца толькі яе адгадаць, абапіраючыся на агучаныя факты, уласныя веды і логіку мышлення, калі такая ёсць у наяўнасці.

Прыклад: Летам шэры, зімой белы. Хто гэта? Правільна, заяц. Гэта была загадка для дзяцей. Цяпер больш складаная. Якая нацыя лічыцца тытульнай у краіне, дзе афіцыйна абвешчаныя дзяржаўнымі дзве мовы, беларуская і руская? Гэтая загадка ўжо больш складаная для чалавека, які яшчэ не ведае правільнага адказу. Давайце прасочым логіку яго мыслення. Зыходзячы з яе, той логікі, варыянты могуць быць толькі два. Гэта можа быць беларуская нацыя, а можа руская. Далей гуляць у дэдуктыўны метад па гэтым пытанні хіба не будзем, бо мы ўсе ўжо ведаем правільны адказ. Але чалавеку, які такога адказу не ведае, хіба што прыйдзецца з верагоднасцю памылкі пяцьдзесят на пяцьдзесят проста ўсляпую адгадваць што гэта за нацыя.

Ёсць загадкі яшчэ больш складаныя. Вось адна з такіх. Адгадайце, што такога зрабіў гэты чалавек, пра якога вядома наступнае (цытуем пра яго выключна вытрымкі з газет і інтэрнэт сайтаў):

„Яго неаднаразова затрымлівала міліцыя. Суд прыгаварыў яго да трох гадоў пазбаўлення волі ўмоўна. Яго ўчынак быў кваліфікаваны як наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак і выказваюць яўную непавагу да грамадства. Зараз ён знаходзіцца ў следчым ізалятары, куды быў змешчаны, пакуль ідзе следства па крымінальнай справе. Адвакат і яго жонка атрымалі афіцыйныя адмовы выпусціць яго пад заклад да суда. Ён трымае галадоўку супраць вылучаных у дачыненні да яго абвінавачанняў. Яго абаронца даведаўся, што ён адмовіўся ад прымусовага кармлення, і стан яго здароўя значна пагоршыўся. Сваякі непакояцца за ягонае жыццё. Вынік можа быць трагічным. А жонцы ўжо сёмы раз адмовілі ў сустрэчы з мужам, і яна не выключае, што менавіта з той прычыны, што ён выглядае змучаным і закатаваным. Ён заяўляе, што гатовы перайсці да сухой галадоўкі".

Старшыня Еўрапарламента Марцін Шульц заклікаў улады Беларусі вызваліць яго. А еўрадэпутат Марэк Мігальскі звярнуўся да старшыні Вярхоўнага суда з просьбай змяніць меру стрымання. Мігальскі паказаў, што той не здзейсніў цяжкага злачынства, а ягонаму здароўю пагражае небяспека з-за галадоўкі, і просіць яго адпусціць, каб той мог атрымаць кваліфікаваную медыцынскую дапамогу.

Дык што ж нарабіў гэты чалавек, якога так моцна ахоўвае беларуская Феміда, не выпускаючы да суда ні пад залог, ні для лячэння. І нават ні просьбы, ні заклікі высокапастаўленых еўрапейскіх парламентарыяў не могуць пахіснуць беларускіх улад у сваім рашэнні трымаць яго пад вартай.

Зыходзячы з фактаў яго ўтрымання лагічна было б меркаваць, што гэты чалавек зрабіў нешта вельмі страшнае. Можа нават ён здзейсніў жудаснае злачынства супраць чалавецтва і на волі будзе небяспечны для іншых людзей?

Але калі нехта знойдзе менавіта такія адказы на гэтую загадку, то яму лепш пайсці пагуляць у інтэрактыўныя гульні, або паспрабаваць вылучыцца сваім розумам у тэстах на IQ. Бо яму ніколі не выйграць у беларускіх інтэлектуальных гульнях, дзе правільны адказ на гэтае пытанне гучыць сумна і банальна — гэты чалавек, якога судзяць зараз за ўхіленне ад адбывання пакарання, першапачаткова правініўся тым, што ўсяго толькі вывесіў на навагоднай ёлцы ў слаўным беларускім горадзе Віцебску... не, не фашысцкую свастыку, і не заклік да бунту, а сімволіку, якая яшчэ зусім нядаўна была дзяржаўнай у Беларусі — бел-чырвона-белы сцяг.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Беларускі таўкач і расійская ступка



Няма чаго баяцца, да польска-беларускай вайны за Бярэсце і Гародню не дойдзе, таму што Беларусь, ахопленая еўрапейскім эмбарга на пастаўку зброі, не мае патронаў. Ды не абы-якіх патронаў! Аднак, не аб гэтым гаворка, а аб змоўніцтве. Дэталёва аб міністэрстве нацыянальнай абароны Расіі ў асобе яго віцэ-міністра Мікалая Макарава, які не завагаўся нацкаваць адну краіну на другую неабдумана кажучы, што Польшча мае намер захапіць частку заходняй Беларусі. Дзіўныя гэта падазрэнні, паколькі прафесійную польскую армію адправілі ў Афганістан і Ірак, а яна там прабуе адважна зразумець, у чым яе роля ў абароне польскіх дзяржаўных інтарэсаў. Затое яе другая рэфармаваная, таму дурнаватая з прадпасылкі частка, былая татальна разгромленай, дзякуючы бясконцым мадэрнізацыям польскіх узброеных сіл, змардавалася дашчэнту і ў прынцыпе думае толькі аб адным — ці цяпер адысці з гонарам на ранейшую пенсію, ці ў імя патрыятызму перачакаць міністэрскіх рэфарматараў, якія або ўрэшце дачакаюцца „хлебных" ордэнаў і з'едуць у цёплыя краіны на заслужаны адпачынак, або самі па сабе яе і заклапочаную публічную думку пакінуць у спакоі.

Бяспека Беларусі цікавіць Макарава настолькі, як апарожненая ім баначка з-пад ікры. Здаецца, што яму аднак вельмі салона ў роце, калі ліе гекталітры вады на тэму меркаваных спроб Нарвегіі, Фінляндыі, Латвіі, Літвы і Нямеччыны, хацеўшых быццам бы ўварваць Расіі значныя абрэзкі яе цяперашняй тэрыторыі. Усё ж забываецца дадаць, што ўсе гэтыя дзяржавы — пасля цынічнага ялцінскага торгу, дзякуючы ў выніку саветам вялікую частку іхніх зямель — і не думаюць тузаца сёння за сваё. Не той час. Не тыя магчымасці і нацыянальныя прыярытэты. А перш за ўсё — якому палітыку ў галаве турбота ў выглядзе постсавецкіх аблогаў, калі ў гэтых усіх краінах, ад гаспадаркі па грамадскі лад, усё стрымгалоў валіцца?

Папраўдзе палякі, на думку Макарава, расійскай зямлі не хочуць, але затое безупынна вострацца сабе зубы на Гарадзеншчыну і Берасцейшчыну. Адных не ўдаецца зламіць на тое цкаванне, а іншыя — чаму не... таўкуць свае дробныя інтарэсы ў імперскай ступцы. Год таму Аляксандр Лукашэнка — дарэчы, сапраўдны з яго таўкач! — абвінаваціў палякаў у ахвоце да беларускіх тэрыторый. Ці беларусы ўхапіліся за нажы, косы і самапалы? Не. Ды Аляксандр Лукашэнка далей сваё: „У Польшчы некаторым мроіцца ў снах: мяжа не там. Мяжа павінна быць пад Мінскам (...)". Да сёння не змяніў ён рыторыкі таўкача, бо недзе з месяц таму папрасіў прэзідэнта Мядзведзева даць дадатковыя сродкі для беларускай арміі. А гэтага ж і трэба бутлягаловым з Крамля, каб змовай, цкаваннем і інтрыгамі сеяць недавер паміж суседнімі краінамі, на канец маніпуляваць імі і канчаткова навязаць ім своеасаблівы пратэктарат імперскага дракона, пружынячагася ў паслясавецкай цэчцы. Тым больш, што ўжо ад усходу наступае на яго другі, не менш юрлівы дракон. Карацей, такая далёка ідучая стратэгія можа ў будучыні аказацца неацэннай для Расіі, калі трэба будзе ёй трусліва аступіцца малым крокам у другі бок.

Лукашэнку, нацкаванаму Макаравым, не наўме, аднак, каб абараняць беларускую зямлю, а тое, каб спакойна таўчы свае дробныя інтарэсы ў расійскай ступы. На жаль, яны такія малыя, што цяжка іх прыкмеціць нават пад мікраскопам палітыкі ў здаровым сэнсе. Ды глянуўшы на гэта людскім вокам, пагрозай для суверэнітэту Беларусі з'яўляецца толькі... сам Лукашэнка. Усё ж адкрытай вайны паміж ім і Расіяй я не прадбачваю. Дарэчы, сучасная мілітарная дактрына адмаўляецца ад вульгарнай секаніны, вышэй ставячы над ёю тонкую і не менш удалую аперацыю на тылах ворага. Хопіць для гэтага атрада біятланістаў, абучаных меткай стральбе і лыжным райзам, якія пад выглядам спартыўных мерапрыемстваў правядуць удалую абаронную акцыю. Толькі што беларускія біятланісты, з-за эмбарга, пазбаўлены патронаў для сваіх вінтовак. На ніштo тут здасца крывадушнае нараканне лукашэнкаўскай прэсы на няроўную трактоўку беларускіх спартсменаў. Паводле яе, змяншае гэта іхнія шанцы на меткую стральбу — як кажуць эксперты — на 3-5 працэнтаў. Дык добра і тое. Бо канфлікту паміж таўкачом і ступкай я не прыкмячаю. Можа, памыляюся. Дзесьці так ад 3 да 5 працэнтаў. Ну, дык памыляюся.

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Нарва заклікае



Дзейнасць ваяводскага, паятовага і гміннага самаўрадаў гэта несумненна адно з найбольшых дасягненняў польскай дэмакратыі. З 1990 года, калі гмінная самаўрадавая рэформа была праведзена і пасля, калі ў 1998 г. ахапіла паветы і ваяводствы, вяртаецца, аднак, час ад часу пытанне: што з фінансаваннем заданняў, дараваных урадам самаўрадам? Адзін са стваральнікаў самаўрадавай рэформы праф. Ежы Рагульскі (цяпер дарадчык прэзідэнта Браніслава Камароўскага, каардынатар працы групы „Тэрытарыяльны самаўрад для Польшчы" ) два гады таму адзначаў: „Самакіраванне гэта права і здольнасць лакальнай грамадскасці. Значыць гэта, што каб самаўрад існаваў, грамадскасць мусіць магчы, а таксама ўмець і хацець кіраваць уласнымі справамі". Прытым рашуча адзначыў: „Маем дачыненне з небяспечнай з'явай перадавання самаўрадавым уладам новых заданняў без адпаведнага павелічэння іх сродкаў. Абмяжоўвае гэта ўласныя самаўрадавыя ініцыятывы. Пры існаванні вельмі вялікіх дыферэнцыяцый, неабходным з'яўляецца шырэйшае прыняцце пад увагу лакальных умоў".

Незалежна ад такіх выказванняў праф. Рагульскага і іншых аўтарытэтаў у галіне самакіравання, а перш за ўсё шматгадовых ужо і гучных заклікаў самых самаўрадаўцаў у справе перадавання грошай, ідучымі за атрыманымі заданнямі, нічога ў прынцыпе не мяняецца. Нядаўна ў гэтай тэме выказалася Гмінная рада ў Нарве. Звярнулася яна да прэм'ера Дональда Туска „ў справе гарантавання адзінкам тэрытарыяльнага самаўрада ўдзелу ў публічных даходах адпаведна да атрыманых заданняў". Гаворка пра закон, які ўступіў у сілу з пачаткам года, а які, як пішуць нарваўскія радныя, „увёў шматлікія новыя ўласныя заданні для гміны, у гэтым ліку абавязак працы для асістэнтаў (памочнікаў) сям'і і нясення частковых коштаў пабыўкі дзяцей у прыёмных сем'ях". Адзначылі, што „ніякае з правіл не паказвае на крыніцы фінансавання, а інтэрпрэтуючы правілы закону можна меркаваць, што гэтае заданне гміна будзе мусіла пакрыць поўнасцю з уласных сродкаў". Адзначылі: „Гэтая рэгуляцыя спрычыніцца да моцнага фінансавага абцяжарання гміннага бюджэту, што знойдзе прамое ўздзеянне на загрузку коштамі рэалізацыі гэтых заданняў яго жыхароў". Гмінная рада ў Нарве спасылаецца на 167 артыкул Канстытуцыі і тры яго пункты, гаварыўшыя, што „органам мясцовага самакіравання гарантуецца ўдзел у публічных даходах, адпаведна да атрыманых імі заданняў, прыбыткамі органаў мясцовага самакіравання з'яўляюцца іхныя даходы ўласныя ды агульныя субвенцыі і мэтанакіраваныя датацыі з дзяржбюджэту, змены ў галіне заданняў і кампетэнцый органаў мясцовага самакіравання наступяць разам з адпаведнымі зменамі ў размеркаванні публічных даходаў".

Не гаварыўшы пра самае важнае пытанне, што закон не гарантуе грошай з цэнтральнай пулькі, напрыклад, на аплату асістэнтаў сям'і, можна сумнявацца ў тым, ці ў такой малой Нарве і яе гміннай установе, якая займаецца сацыяльнай апекай, спраўна даючай дагэтуль сабе рады з гэтымі праблемамі, функцыя асістэнта сям'і была ўвогуле патрэбная. А адносна самога заклiку. Нават калі прэм'ер (г.зн. хтосьці ад яго імя?) прызнаўся б да памылкі, а нават прасіў за яе прабачэння (што ў апошні час стала ва ўрадавых колах папулярным), дык змена закону зойме доўгі час, на працягу якога Нарва і іншыя гміны будуць прымушаны несці коштам яго функцыянавання ў кшталце абавязваючым ад пачатку года, значыць, будуць плаціць напр. за працу асістэнтаў сям'і.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота
Міры ЛУКШЫ

# Новы спеўнік Сцяпана Копы







Сцяпан Копа „Рассяпаваны Гарадок" вёў бесперапынна амаль 35 гадоў

**У Гмінным цэнтры Культуры 17 лютага шматлікія слухачы паявіліся на ўрачыстай прамоцыі кнігі „Беларускія песні Гарадоцкай зямлі" ды канцэрце мясцовых калектываў. „Pieśni białoruskie Ziemi Gródeckiej / Беларускія песні Гарадоцкай зямлі" гэта вельмі важны гістарычны дакумент, дзякуючы якому ад забыцця ўратаваны вялікі скарб народнай музычнай культуры гэтай тэрыторыі. Гэта адначасова каштоўная крыніца рэпертуару для дзейнічаючых у гміне калектываў, як і звычайных жыхароў, вядомых любоўю да „свойскіх" песень. Зборнік паказаўся ў канцы 2011 года ў серыі Gródeckiej Oficyny Wydawniczej пры Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку, дзякуючы датацыі Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.**

— Выказваю вялікую ўдзячнасць усім, хто спрычыніўся да выдання гэтага зборніка, — дзякаваў складальнік. — У першую чаргу словы падзякі накіроўваю да тых асоб, якія сваім спевам спрычыніліся да запісання песень сваіх продкаў і... яшчэ жывуць. Нізка кланяюся тым, хто ўжо адышоў у вечнасць, пакідаючы па сабе песні запісаныя ў гэтым спеўніку. Словы сардэчнай падзякі належацца таксама спадарыні Кацярыне Аляксеюк-Дмітрук за дапамогу ў транскрыпцыі тэкстаў песень з чатырох мясцовасцей Гарадоцкай гміны і стварэнні папак песень змешчаных у III, IV, V і VI раздзелах. Спадару Уладзіславу Петруку перадаю падзяку за праект вокладкі. Дзякую таксама спадару Яну Карповічу за дапамогу ў збіранні гістарычных матэрыялаў аб Гарадоцкай зямлі. Словы найсардэчнай падзякі кірую дырэктару Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку Юрыю Хмялеўскаму за ініцыятыву выдання гэтай працы, напісанне праекта і арганізацыйна-фінансавыя захады з мэтай яго рэалізацыі.

Агромным багаццем культуры Гарадоцкай зямлі з'яўляецца дамінуючы на гэтай тэрыторыі беларускі фальклор, які безупынна ад многіх гадоў развіваюць шматлікія аматарскія вакальныя і вакальна-інструментальныя калектывы, якія дзейнічаюць пры Гмінным асяродку культуры. Несумненна, у іх ліку найбольш заслужаны на гэтай ніве — Народны вакальны калектыў, заснаваны восенню 1953 года, які ў 1996 г. прыняў назву „Рассяпаваны Гарадок" і да сённяшняга дня з вялікім поспехам расслаўляе Гарадоцкую зямлю сваімі песнямі. У верасні 1967 года супрацоўніцтва з гэтым калектывам пачаў Сцяпан Копа. Бесперапынна вёў яго амаль 35 гадоў (да лютага 2002 года). За такі доўгі перыяд музычнай працы на тэрыторыі гміны ўдалося яму запісаць песні ў трынаццаці мясцовасцях: у Баброўніках — 12 песень, Гарадку — 33 песні, Калодне — 34 песні, Коматаўцах — 3 песні, Меляшках — 58 песень, Падазеранах — 17 песень, Скрабляках — 6 песень, Свіслачанах — 8 песень, Валілах-Вёсцы — 3 песні, Вейках — 17 песень, Залуках — 20 песень, Зарэчанах — 27 песень, Зубрах — 8 песень. Усе яны апынуліся ў гэтым зборніку, які з'яўляецца здзяйсненнем шматгадовых мараў аб тым, каб выдаць такі спеўнік. Разам з прыпеўкамі, калыханкамі і забаўлянкамі змяшчае ён у сабе каля 250 песень, такім чынам уратаваных ад забыцця. Складзены яны ў восем раздзелаў: вясельныя песні, хрысцінныя песні, канапелькі — валачобныя, веснавыя — сырая гуска, жніўныя песні, рэкруцкія песні, бяседныя песні ды розныя песні.




Злева: Юры Хмялеўскі, Сцяпан Копа і Ян Карповіч

Песні ў I раздзеле складзены паводле ходу традыцыйных вясельных абрадаў, якія былі аднолькавыя або падобныя ва ўсіх мясовасцях Гарадоцкай гміны. Песенны матэрыял папярэджаны спіскам паасобных этапаў гэтай урачыстасці і спіскам песень, якія могуць паслужыць для прадстаўляння гэтага свята таксама ў цяперашні час. Сцяпан Копа прадстаўляе цэлы вясельны абрад ад пачэння каравая аж да падвясёлка. Мелодыка і тэксты абрадавых вясельных песень з Гарадоцкай гміны, запісаныя ў першым раздзеле працы, сягаюць вельмі даўняга часу. Часта яны блізкія песням гэтага тыпу з мясцовасцей Бельскага і Гайнаўскага паветаў. Датычаць яны такіх самых абычаяў у сферы вясельных і хрысцінных абрадаў. Хрысцінныя песні ў II раздзеле гэтай працы складзены ў пяці тэматычных групах. Выключэннем з'яўляецца песня *Паложнічку міла* з Залук, пастаўленая як першая, выключная па сваім змесце і мелодыцы. Нідзе дасюль — у час фальклорных экспедыцый — Сцяпан Копа такой песні не знайшоў.

— Варта тут успомніць аб спажыванні ежы ў час хрысціннай бяседы (таксама і вясельнай) у мінулым, — каларытна прадстаўляе абрад Сцяпан Копа. — Для ўсіх гасцей быў адзін кілішак для гарэлкі на кожным стале. Выпіванню папярэднічаў зварот тыпу: *Ну, то на здароўе* да найбліжэйшай асобы, сядзеўшай за сталом з левага боку. Той, хто ўжо выпіў, наліваў гарэлку ў кілішак і перадаваў яго суседу ці суседцы, якія выконвалі — па чарзе — тое ж самае. Паасобны кілішак „кружыў" (па гадзіннікавай стэлцы) вакол сталоў, а тым часам госці „закусвалі" ежай, якую падрыхтавалі гаспадары. Ежу набіралі пальцамі, таму што ў мінулым не было шмат талерак, відэльцаў і нажоў. Напояў для запівання гарэлкі таксама не было. Аб гэтых звычаях расказвала мне (2 кастрычніка 1998 г.) жыхарка Зарэчан Зофія Гогель (нар. у 1918 г.). Якраз у гэтай мясцовасці і ў Залуках удалося даведацца найбольш аб вясельных і хрысцінных абрадах ды запісаць песень звязаных з гэтымі ўрачыстасцямі.

Наступны — трэці — раздзел — прысвечаны песням датычным Вялікадня, г.зв. *валачобным, на валоканне* або — папросту *канапелькам*, якія спяваліся ў мінулым кавалерамі пад дамамі, дзе былі дзеўкі. Пяты раздзел змяшчае вельмі старажытныя жніўныя песні, з розным лікам строф — ад дзвюх да пяці. Запісаны яны ў сямі мясцовасцях гміны. Усе яны датычаць канца жніва, завяршаючага працу з сярпом у свайго пана. Удалося таксама знайсці шэсць рэкруцкіх песень, якія змешчаны ў шостым раздзеле. Сярод такіх песень у гэтым раздзеле найбольш каштоўнай з'яўляецца рускамоўная *За лесам*, якая была ў мінулым найбольш папулярнай сярод грамадскасці гэтага рэгіёна. У сёмым раздзеле змешчана 46 песень, лёгкіх для вывучэння слухачом, улюбёных і папулярных да сённяшняга дня. Гэта „Бяседныя песні", і кожны можа тут знайсці штосьці пад свой густ. Раздзел адкрывае сатырычна-павучальная песня, якую папулярна завуць *Басота* або *Галота*, якую запісалі ў чатырох вёсках гміны. „Розныя песні" (62 творы) апублікаваны ў восьмым раздзеле. Могуць яны выбірацца, перабірацца і адбірацца ды співацца ў час розных урачыстасцей. У гэтым спеўніку апынулася некалькі польскамоўных песень, напрыклад *Ej, tam na górze leszczyna* і *W zielonym gaiku* — запісаныя ў Калодне (у першай з іх тэкст адпавядае папулярнай беларускай песні *Гарэла сосна, палала*, затое адрозніваюцца яны мелодыямі), другую аховотна спявалі на вяселлях у Калодне. Ёсць таксама руская песня *За лесам*, ад спадарыні Ніны Шэрэмэты з Гарадка — вельмі вядомая на Беласточчыне і спяваная рэкрутам, адыходзячым у армію. Знайсці таксама можна некалькі песень, якіх радавод украінскі, ды каранямі ўраслі яны ад вякоў у Гарадоцкую зямлю, як запісаныя ў Меляшках: *Месяц на небе* і *Стаіць гара высокая*. Усе песні запісаны ў арыгінальных танацыях — згодна з магнітафоннымі запісамі.

У час сваіх фальклорных экспедыцый па Гарадоцкай зямлі аўтар запісаў таксама песні, якія не ўвайшлі ў гэты спеўнік. У Залуках велікапосныя песні (спяваныя ад Масленіцы да Вялікадня) называлі „велікапоснымі", „святымі" або „страсцямі". Аўтар не ўключыў іх у збор, паколькі яны змешчаны ў Багагласніках.

Сцяпан Копа спадзяецца, што яго працай карыстацца будуць чарговыя пакаленні Гарадоцкай зямлі, у тым ліку дзеці і моладзь, дзякуючы чаму звычай співання гэтых песень не прападзе. Гэты спеўнік спатрэбіцца таксама пры прэзентацыі мясцовай музычнай спадчыны на аглядах, конкурсах і канцэртах у выглядзе паасобных песень або выбраных і адпаведна апрацаваных абрадаў.

# У Палічнай працвітае „Стакротка”

Таварыства „Стакротка” (Маргарытка) арганізавалася ў Палічнай у верасні 2010 г. і гуртуе дзевятнаццаць членаў. Каардынацыяй працы займаецца праўленне з трох чалавек, якому старшынстве мясцовая радна Аліна Зазулінская. Таварыства прыняло статут. Створаны тэматычныя групы. Былі падзелены абавязкі і створаны план дзейнасці. Задачы для рэалізацыі вызначылі сябры таварыства, пакарыстаўшыся інтэрнэтам. Першнаперш прынялі ўдзел у Рэгіянальным грантавым конкурсе Польска-Амерыканскага фонду свабоды „Раўнясць шанцы-2011” і за працу „Сямейныя сувязі запісаныя ў карціне” атрымалі 6 тысяч злотых. Для рэалізацыі конкурснай задачы спатрэбіліся фотаапараты. Выбарам і іх закупкай заняліся сябры таварыства. Дазволіла гэта маладым прывучыцца самастойнаму мышленню наконт выбару адпаведнага тавару, параўнання цэн і адказнасці за выдаткаванне сродкаў. У мінулым годзе таварыства арганізавала шмат культурных мерапрыемстваў. У гэтым годзе першай імпрэзай быў „Вечар калядак”. Чарговае мерапрыемства „Катанне на санках” адбылося 11 лютага. А было гэта так.



Удзельнікі „куліга”, а былі імі школьнікі з Палічнай, Курашава, Войнаўкі і Дабрывады, сабраліся апоўдні перад святліцай. Пад наглядам старшыні Таварыства „Стакротка” Аліны Зазулінскай і солтыса Альжбеты Каравай на санках падаліся ў напрамку Белай Стражы. Вазакамі былі Аляксей Вілюк з Палічнай і Сяргей Сахарчук з Дабрывады. Мэтай падарожжа было ўрочышча Дуброва, якое прылягае да хутара Белай Стражы. Там удзельнікі катання сустрэліся з функцыянерамі Пагранічнай аховы з Чаромхі і сабакам „Фунтам”. Вайскоўцы паказалі прысутным дзяржаўную граніцу, расказалі як трэба сябе паводзіць у памежнай паласе. Пасля старшы штабны харунжы Міраслаў Міцэвіч прадэманстраваў некалькі прыёмаў з дрэсіроўкі сабакі, якая зводзілася да пераймання злачынцы, які незаконна перасек граніцу. Сустрэча з пагранічнікамі завяршылася вогнішчам і пячэннем каўбасак. За кастром наглядалі вазакі, а памагалі ім Віктар Сахарчук з Палічнай і Эдвард Зазулінскі з Курашава. Печаная каўбаска з гарачай гарбатай у зацішку паляўнічай пристані „Darz Bór” разагрэла ўдзельнікаў мерапрыемства. Непрыкметна мінулі дзве гадзіны ў вясёлай і ветлівай кампаніі. Пакінуў я сяброў пры вогнішчы і разам з пагранічнікамі вярнуўся дамоў. Развітваючыся, дзякавалі мы арганізатарам за сардэчны прыём і супольна праведзены час, выказваючы спадзяванне, што спаткаемся на чарговай імпрэзе.

**Уладзімір СІДАРУК**



Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Сустрэча ў Багонніках

**18 лютага ў мусульманскім Доме пілігрыма ў Багонніках, што ў Сакольскай гміне, адбылася сустрэча з прадстаўнікамі самаўрадавых і дзяржаўных улад пад лозунгам „Прэзентацыя даробку нацыянальных і этнічных меншасцей на Падляшшы”. Гэтая прэзентацыя, аднак, была абмежавана толькі да прэзентацыі даробку тамашняй мусульманскай абшчыны, паколькі прысутнасць іншых меншасцей была па сутнасці толькі тытулярнай. Я сам апынуўся там даволі выпадкова, паколькі запрашэнне было адрасавана спадару Яўгену Вапу, мабыць як старшыні Беларускага саюза ў РП, а ён вызначыў мяне, мабыць як галоўны рэдактар „Нівы”, у якасці назіральніка і апісальніка гэтага мерапрыемства. Яшчэ цалкам нядаўна было гаварылася, што савецкі народ п'е каньяк і есць ікру вуснамі сваіх перадавых партыйных прадстаўнікоў, дык і я такім жа чынам пачуўся прадстаўніком нашай меншасці, даручыўшы ёй не толькі вочы і вушы, але таксама вусны для знаёмства, у гэтым выпадку, з кулінарным мастацтвам нашых суседзяў, суседзяў у тапаграфічным і рэлігійным сэнсе.**

Паколькі прысутнасць меншасцей назваў я тытулярнай, але з боку дзяржаўных улад была яна даволі высокай, бо мерапрыемству аказаў гонар асабіста сам падляшскі ваявода Мацей Жыўна. Быў і ягоны ўпаўнаважаны па меншасцях Мацей Тэфэльскі ды прадстаўніца гарадскіх улад Саколкі. З меншасцей удалося мне пазнаць прадстаўнікоў меншасцей найменшых: Станіслава Станкевіча і Галіну Раманчук. Ну, вядома, большасць прысутных складалі самі сябры багонніцкай мусульманскай абшчыны.

Спачатку арганізатары частавалі гасцей мерапрыемства, што прыбылі з зімовага вонку, гарачай гарбатай. Пазней прысутныя падаліся ў мясцовую мячэць, дзе старшыня багонніцкай мусульманскай абшчыны Міраслава Карыцкая коратка пазнаёміла прысутных з храмам. Імам Стэфан Ясінскі адслужыў кароткае набажэнства...

Цяперашняя мячэць у Багонніках была пабудавана ў 1870-х гадах. Ранейшая мячэць была поруч даўняга мізара — мусульманскага могільніка — што быў пасярэдзіне вёскі. Цяпер на месцы старога мізара жвіровы кар'ер. Пасля апошняй вайны бралі адтуль жвір і з захаванымі астанкамі людзей масцілі ім навакольныя дарогі; быў гэта час, калі не было як і пратэставаць супраць такога варварства...

Мячэць прайшла грунтоўны рамонт у першым дзесяцігоддзі XXI веку. Пабудавана яна з драўніны на плане квадрата з чатырохпакатным дахам, завершаным сігнатуркавым мінарэтам. Складаецца яна з сенцаў, дзе верныя пакідаюць вонкавы абутак, ды двух малітоўных памяшканняў: аднаго для жанчын і другога для мужчын; адмежаваны яны ад сябе шырокім акенцам, праз якое праходзіць голас святара. Святар моліцца ў мужчынскім памяшканні, дзе знаходзіцца міхраб — скіраваная ў бок Меккі ніша. У мужчынскай частцы багонніцкай мячэці знаходзіцца шырокі балкон — месца для муэдзіна. Мячэць завершаная паўмесяцам, які зараз лічыцца сімвалам ісламу. Аднак паўмесяц з'яўляецца даволі свежым здабыткам гэтай рэлігіі. Пачынальнікі ісламу былі супраць усялякай геаметрычнай сімволікі, накшталт крыжа ў хрысціян; у мусульман быў ён свецкім сімвалам. А ў хрысціян — Вастрабрамскі абраз Божай Маці перапаясаны менавіта паўмесяцам... Яшчэ ў эпоху візантыйска-



Выступае Міраслава Карыцкая

турэцкіх войнаў паўмесяц у якасці вайсковага сімвала прымянялі абодва ваюючыя бакі. У дзяржаўную сімволіку Турцыі паўмесяц быў уведзены ў пачатках XIX стагоддзя. Пасля ўвялі яго ў сваю сімволіку іншыя мусульманскія дзяржавы ды паціхеньку стаў ён і рэлігійным сімвалам...

Цяперашні багонніцкі мізар аддалены ад вёскі каля паўкіламетра на поўнач. Гэты мізар — найбуйнейшы ў заходняй частцы Еўропы. Распаложаны ён



Імам Стэфан Ясінскі і ваявода Мацей Жыўна

на склонах конусападобнага, адносна высокага ўзгорка. Здалося мне, што гэты кшталт можа прыгадваць патомкам выхадцаў з далёкай Азіі пікі Алтайскіх гор...

Якім жа чынам тыя патомкі апынуліся ў нашым старонні? Спачатку, пасля доўгай вандроўкі на захад следам заваёў Батыя, займалі яны месцы на далёкіх крэсах сённяшняй Украіны. Мужчыны служылі ў войску, у тым ліку і ў атрадах польскіх каралёў. Каля 1670 года ў Польскае каралеўства заглянуў эканамічны крызіс, так як цяпер у Грэцыю. Кароль не меў чым плаціць сваім мусульманскім ваякам і яны ўзбунтаваліся, пераходзячы на службу турэцкаму султану. Каралю Яну III Сабескаму была гэта вельмі вялікая і небяспечная страта, таму ён рашыўся заплаціць свайму мусульманскаму войску той валютай, якую ён яшчэ меў — нерухомасцю, значыць зямельнымі надзеламі, якія, м.інш., былі ў наваколлі Гродна...

Афіцыйную частку спаткання павяла старшыня Міраслава Карыцкая. Прывітала яна вельмі сардэчна ваяводу Мацея Жыўну, як вялікага прыяцеля і апекуна мясцовай татарскай грамадскасці. Прывітала яна таксама Саміра Ісмаіла, прадстаўніка Мусульманскай лігі, які арганізаваў летнікі аднавернымі дзецям і моладзі. І сардэчна прывітала яна імама Стэфана Ясінскага, якому ў той дзень споўніцца роўны сто адзін год! Саноўнейшы юбіляр атрымаў з гэтай нагоды кветкі і падарунак. У адказ пажадаў ён усім прысутным здароўя, бо калі ёсць здароўе, тады ёсць усё, з непахіснай верай у адзінага Бога. Спадарыня Карыцкая паведаміла, што на прапанову ваяводы, за заслугі для мясцовай грамадскасці, тры жанчыны з праўлення багонніцкай мусульманскай абшчыны — Джанету Міськевіч, Міру Міськевіч і Еву Сулькевіч — прэзідэнт Рэчы Паспалітай Браніслаў Камароўскі ўзнагародзіў Залатымі крыжамі заслугі; адзнакі ўручыў ваявода.

Самір Ісмаіл расказаў коратка пра істоту ісламу, падкрэсліваючы, што яго асноўным запаветам з'яўляецца згоднае сужыццё з суседзямі без аглядкі на іх веравызнанне.

Ваявода Мацей Жыўна рассакрэціў сваю прыхільнасць да багонніцкіх мусульман — у студэнцкія гады яму даваўся бываць у Багонніках і з таго часу ён набраў такой сімпатыі, якая надалей дзейнічае быццам які падкуп.

Пасля афіцыйнай часткі быў пачастунак, які ў прынцыпе складалі два смакавітыя гіты: калдуны і перакачаўнік. Калдуны гэта клёцкі з ялавічынай начынкай у расоле. А перакачаўнік гэта від рулета з начынкай; у Багонніках перакачаўнікі былі начынены ялавічынай і яблычным фаршам. Гэтыя смакоцці рыхтавалі м.інш. узнагароджаныя прэзідэнтам Камароўскім Залатымі крыжамі заслугі сяброўкі мясцовай абшчыны.

Развітваючыся з гаспадарамі мерапрыемства, павіншаваў я і імама Стэфана Ясінскага. У адказ узгадаў ён Мацея Канапацкага, які раней працаваў у „Ніве” і прасіў перадаць добрыя пажаданні ўсёй ніўскай грамадзе.

Д-р Юрый ТРАЧУК

# Два гады таму назад адышоў прафесар Васіль БЕЛАКАЗОВІЧ (2.I.1932 — 21.II.2010)

Для мяне асабіста была гэта адна з найбольшых у той час страт! І хоць прафесар у апошні час не змог мне ніяк дапамагчы, у адным з найцяжэйшых перыядаў майго жыцця ўжо пасля абароны сваёй доктарскай дысертацыі, то ўсё ж Ягоная маральная і духоўная падтрымка значыла шмат! А ў лютым 2010 г. ужо яе не стала, хоць у той час ужо пачало наладжвацца і маё жыццё. Я зноў знайшоў пастаянную навуковую працу. Нешта было сімвалічнае ў тым, што першы дзень маёй новай штатнай працы выпаў на дзень Ягонага пахавання, на якое я прыехаў, хоць цётка Тамара, якой не стане ўжо год пасля ягонай смерці, на гэта не настойвала. Цяжка было б не правесці ў апошні шлях сусветна вядомага вучонага, пад інтэлектуальна-духоўнымі крыламі якога фармаваласяі мацавалася і мая духоўна-інтэлектуальная свядомасць. У пэўным сэнсе абавязаны я за гэта і першаму галоўнаму рэдактару „Нівы", Георгію Валкавыцкаму, які пасля майго трагікамічнага адыходу з рэдакцыі ў 1984 г. як „агента УПА", праз сваіх пасрэднікаў накіраваў мяне на працу іменна да гэтага сусветнай славы Прафесара. Выбар, не зважаючы на ўсё, не мог быць лепшым!



Фота з архіва аўтара

На здымку злева праф. Васіль Белаказовіч падчас XII Міжнароднага кангрэсу славістаў у Кракаве 2 IX 1998 г.

У Інстытуце славяназнаўства Польскай акадэміі навук у Варшаве ў той час ніхто фактычна не мог зраўняцца з Прафесарам! Так па шырыні ягоных інтэлектуальных гарызонтаў, колькасці выдадзеных і надрукаваных навуковых прац, так і Ягонай незвычайнай, тытанічнай працавітасці. Так гаварыла пра Яго тады пакойная ўжо дацэнт Данута Кулакоўская і зусім не было гэта нейкае падлізніцтва ці перабольшванне! Незвычайнасць сітуацыі была і ў тым, што фактычна я трапіў у той час у рукі свайго дзядзькі, зусім пра тое не ведаючы! Дзіўная інтуіцыя прымусіла мяне неўзабаве запрасіць Белаказовічаў на сваё вяселле, так як і паэта Віктара Шведа. Дзядзька, натуральна, з-за сваіх абавязкаў не змог прыехаць, але і ў даўгах не застаўся. Так пачыналася наша духоўна-інтэлектуальная не толькі супольная навуковая праца, але і сяброўства. Паводле слоў пакойнага ўжо тадышняга дырэктара Інстытута праф. Мечыслава Басая, Прафесар любіў мяне! Уражвала і тое, што ў Ягоным Сектары ўсходнеславянскіх літаратур практычна не было нашых людзей. Прафесар працаваў з палякамі і, мабыць, яўрэямі, з якімі гэтаксама сябраваў.

Нялёгка было трапіць у Сектар Прафесара, які ў той час быў намеснікам сакратара І Аддзялення грамадскіх навук Польскай акадэміі навук. У той час гэта была адна з найвышэйшых пасад! Адчувалася і нейкую ізаляцыю і нават адчужэнне Прафесара як ад беларускага, так і ўкраінскага асяроддзяў у Польшчы. Калі Прафесар убачыў, што ў анкеце я ўпісаў па маці беларускую нацыянальнасць, сказаў, што трэба ўпісваць польскую, а, мабыць, першыя недаразуменні паміж намі ўзніклі, калі мы пачалі гутарыць пра асобу Кастуся Каліноўскага. У Прафесара быў іншы погляд на ягоную дзейнасць. Аспрэчыць яго, як раней, так і пазней, было практычна немагчыма, хоць у дыскусіі я нават спасылаўся на дакументы і кніжку, выдадзеную ў той час на рускай мове тадышняй Камуністычнай партыяй Беларусі! А для мяне Каліноўскі быў у той час нацыянальным беларускім героем! І то ад пачатковай школы, калі я ўпершыню захапіўся ягонай асобай, слухаючы, як здаецца, на ўроку беларускай мовы, які ў той час вяла ў Пачатковай школе ў Нурцы Зоя Мартынюк, апавяданне пра яго! Доўгі час ад дзіцяці марылася так жыць і памерці за свой беларускі народ, як гэта зрабіў іменна Кастусь Каліноўскі!

Не абы-якое ўражанне выклікала на Прафесары мая дысертацыя пра заходнебеларускі друк, якую пісаў я пад яго ўплывам. Адчувалася гэта як падчас майго першага візіту ў Белаказовічаў, як здаецца, у 1992 г. у Варшаве, так і раней, калі Прафесар знаёміў мяне ў Польскай акадэміі навук з пакойным ужо прафесарам Рышардам Лужным у 1991 г. у Палацы культуры і навукі. Неўзабаве прафесар Лужны запрапануе тады мне навуковую працу ў Каталіцкім люблінскім універсітэце Яна Паўла ІІ.

Праца ў Польскай акадэміі навук была карпатлівай і нялёгкай. Ад самага пачатку адчувалася тут пэўную няўпэўненасць. Ніхто не ведаў, што будзе заўтра і ці прадоўжаць табе дагавор на наступны год ці не. Мабыць, усе сядзелі тут як на іголках! У паветры лунаў заданы канфлікт паміж гэтак званымі „салідарнікамі", да якіх крытычна нават ставіўся былы „салідарнік" прафесар Рышард Лужны (у знак пратэсту ў свой час выступіў ён з „Салідарнасці"), хоць працаваў ён здалёк у Ягайлаўскім універсітэце ў Кракаве і, як сябра рымскага папы, у Каталіцкім люблінскім універсітэце.

Апагей канфлікту прыпаў на 1991-92 і пазнейшыя гады, на хвалі гэтак званай „дэмакратызацыі", калі шмат нехалі заслужаных вучоных страціла тут працу і прымушана была адысці на пенсію, шукаць занятку ў іншых навуковых установах або стаць цалкам беспрацоўнымі. Амаль цалкам разгромлены стаў і Сектар Прафесара!

Абаронцаў Прафесара і ягоных вучняў на навуковай радзе было няшмат. Асабліва ярка паказалі сябе праф. Рышард Лужны і праф. Тадэвуш Левашкевіч. Абодва яны ў знак пратэсту адышлі з навуковай рады. Праф. Тадэвуш Левашкевіч публічна параўнаў тадышнія нападкі на вучоных да ганення яўрэяў у ІІІ Рэйху! У абароне цкаваных вучоных выступіў і я, як шэф тадышняга прафсаюза ў Інстытуце славяназнаўства Польскай акадэміі навук, чаго Прафесар не забыў мне гэтага да апошніх дзён свайго жыцця! Мае апошнія размовы з сям'ёй Белаказовічаў перад Ягонай смерцю, у студзені 2010 г. зафіксаваны 5, 7 і 24 студзеня (а 11 гадзіне 02 мінуты, 10:02 і 10:24) . Іх працяг — 39 хвілін 24 секунды, 12:54 і 46:49. Сказаў Ён мне пра тое ў нашай апошняй ужо размове ў адной з іх, як здаецца, 7 студзеня 2010 г.

Славутага вучонага, аўтара вядомых кніжак, між іншым, пра Льва Талстога і праф. Мікалая Янчука з Паўдзённага Падляшша і звыш тысячы навуковых, навукова-папулярных і публіцыстычных артыкулаў, навуковага кіраўніка 26 доктарскіх дысертацый і звыш 200 магістэрскіх, прафесара Варшаўскага (1957-1973), Вармінска-Мазурскага ўніверсітэтаў (1992-2003), Вышэйшай грамадска-эканамічнай школы ў Варшаве (2003-2010) і Польскай акадэміі навук (1973-1992), пачэснага доктара Санкт-Пецярбургскага (1981) і Ніжагародскага ўніверсітэтаў (1995), дзейснага члена International Eurasian Academy of Science (1998), бл. п. Васіля Белаказовіча, няма ўжо сярод нас! Нягледзячы на абструкцыю ў дзевяностых гадах, адышоў Ён у арэоле славы! Наша памяць пра Яго будзе вечнай!

Нараўчанская гміна

## Дрэнна, калі няма раскладаў

Аўтобусы ПКС з Беластока ў Нараўку і далей у Гайнаўку едзяць па двух маршрутах, у тым адзін праз Сушчу. Улады Нараўчанскай гміны клапоцяцца пра аўтобусныя прыпынкі. У канцы мінулага года здалі ў карыстанне новыя міні-пачакальні, між іншым, у Старым Ляўкове і Свінароях. Раней пабудавалі іх у Лешуках, Новым Ляўкове, Плянце, Нараўцы і ў Скупаве. Шкада толькі, што зараз толькі ў некаторых з іх вісяць актуальныя расклады язды. Няма раскладаў у Плянце, Гарадзіску, Нараўцы, Свінароях і ў Скупаве.

Вось канкурэнцыя — уласнікі прыватных аўтобусаў лепш дбаюць пра расклады свайго пасажырскага транспарту. Яны забяспечаны ад дажджу і пылу. Іх не сарвеш — яны за тоўстым шклом і дошчачкі таблічак прыкручаныя шрубамі!

У мінулым годзе на маю інтэрвенцыю дырэктар ПКС у Беластоку даў адказ, што расклады будуць, калі прыйдзе час акцыі расклейвання раскладаў. А вось зараз таго дырэктара ўжо памянялі. Новае кіраўніцтва ПКС — па ўсім відаць — пра расклады не клапоціцца. Расклады ж — важная справа. Дрэнна, калі іх няма. Яны неабходныя.

**(яц)**

## ЗАПРАШЭННЕ

**З цыкла размовы аб: .... гісторыі**

**Гістарычныя адносіны Белавежская пушча — Беласток**

**а таксама**

**Прэзентацыя альбома „Гісторыя Беластока" падчас сустрэчы з Анджэем Ляхоўскім**

**дырэктарам Падляшскага музея**

**Сардэчна запрашаем!**

**Цэнтр прамоцыі рэгіёна „Чарлёнка" Гайнаўка, вул. Т. Саланевіч, 2**

**24.02.2012 г. гадз. 18:00**

## СПАЧУВАННІ

Юрку Хмялеўскаму
і яго родным
словы спачування
па прычыне напаткаўшага
іх гора — смерці бацькі
**ЯНА**

**выказваюць сябры „Часопіса" і Праграмнай Рады Тыднёвіка „Ніва"**

## СПАЧУВАННІ

Маці Зінаідзе Хлябіч
і сёстрам Ірэне і Галіне словы
сардэчнага спачування
па прычыне напаткаўшага
іх гора — смерці
**Яна Мікалаевіча Хлябіча**

**выказваюць жыхары Рыбакоў і супрацоўнікі вадасховішча Семяноўка.**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# У нас сягоння Масленіца, прыляцела ластавіца...

Фота Ганны Кандрацюк



Ці ёсць яшчэ ў нас „смачнейшы" абрад за Масленіцу?!

Яна спалучаецца нам з горбай духмяных пончыкаў, румяных булачак і пранічкаў, смачных сыркоў і далікатных хрустаў, пышных бліноў з мёдам або смятанкай, аблітых гарачым шакаладам ці малінавым соўсам...

Невыпадкова нашыя продкі ўяўлялі Масленіцу як румяную, вясёлую дзяўчыну з валасамі, прыаздобленымі зялёнымі галінкамі, кветкамі, ластаўкамі. Масленіца — першае вясновае свята, якое завяршае зіму і ўслаўляе прыход вясны, сонца, цяпла. У мінулым свята спалучалі з ацёлам кароў, таму ў хаце заўсёды быў лішак масла, смятаны, сыру. Гэты перыяд звычайна выпадаў на зломе лютага і сакавіка. Спажываючы дары прыроды, людзі адначасова славілі Вялеса, дахрысціянскага апекуна жывёлы. Вялес на працягу года зберагаў статак, надаваў яму сілу, клапаціўся пра яго павелічэнне.

З прыняццем хрысціянства Масленіцу пачалі ладзіць у апошні тыдзень перад Вялікім постам, з кульмінацыяй у чацвер, на Улася. Зараз у гэты дзень католікі адзначаюць „тоўсты чацвер", з горбай пончыкаў і хрустаў. У праваслаўных вылучаюць „сырапусны тыдзень", у які рэкамендуецца есці толькі малочныя прадукты. Разам адбываюцца ўсякія гульні і забавы, якія маюць сімвалічны і чарадзейны характар.

Можна сказаць, што абрад Масленіцы перажывае свой рэнесанс. Калі шаснаццаць гадоў таму разам з сябрамі я пісала сцэнарый пра гэтае свята для беларускага садка, яно здавалася забытым. На Падляшшы гэты абрад найчасцей называюць Запусты, у час якіх спажываюць мяса і малочныя стравы і разам спраўляюць танцы.

Праўда, дзе-нідзе пра гэты старажытны абрад напамінаюць спектаклі, у якіх найперш паказана „смачнасць"! Запамятаўся тэатр зладжаны ў Нарве, дзе ў якасці рэквізітаў паслужылі праўдзівыя пірагі і булкі, каўбасы і шынкі, прынесеныя з дамоў вучнямі. Яны настолькі пахнелі і спакушалі, што цяжка было засяродзіцца на сцэнічным майстэрстве...

ЗОРКА

# Пралеска і Мураш

Прыйшла вясна. Прачнуліся працавітыя мурашы. Вылез з хаткі першы Мураш. Але ні кветак, ні травы, амаль нічога зялёнага навокал не ўбачыў. Сумна стала Мурашу. Усё мокрае, маркотнае. Толькі дзе-нідзе выбівалася маладзенькая траўка. Вечарам, калі Мураш заснуў, яму прыснілася прыгожая кветачка. Як жа ён здзівіўся, калі, выйшаўшы раніцай на вуліцу, убачыў тую кветачку, якую сніў. Яна вырасла якраз каля парога хаткі. Мурашу спадабалася прыгажуня.

— Як цябе завуць і адкуль ты ўзялася? — спытаў Мураш.

— Я — Пралесачка, — адказала кветачка. — Я вырасла тут за ноч.

Мураш узрадаваўся:

— А я Мураш, Пралесачка, давай сябраваць.

І яны пасябравалі. Кожную раніцу Мураш выходзіў да сваёй сяброўкі. Але хутка ў прыгажуні сталі адпадаць пялёсткі. Зноў засумаваў Мураш. Шкада яму стала Пралесачкі. Але кветачка мудра сказала:

— Не сумуй. Вясною мы сустрэнемся зноў.

Так і пайшло з той вясны. Мураш сустракае Пралесачку, і яны зноў сябруюць.

**Наталька Відэйка,**
*Куцькаўская СШ, Мядзельскі раён, Мінская вобласць*

# Конкурс пра зіму (9)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Якія народныя песні дазвалялі сабе слухаць нашыя продкі ў час Вялікага посту?**
*а) лірніцкія песні з хрысціянска-дыдактычным зместам,*
*б) эстрадныя беларускія песні,*
*в) вясянкі, рагулькі, гайкі.*

**2. Дзе на Падляшшы знаходзіўся галоўны „цэнтр" лірнікаў і вандроўных дзядоў?**
*а) у Драгічыне,*
*б) у прытулку ля Супрасльскага манастыра,*
*в) ва ўрочышчы „Крынічка", што ў Белавежскай пушчы.*

**3. Якія рэлігійна-народныя святы, прысвечаныя памяці продкаў, часта адзначаюць у час Вялікага посту (глядзіце каляндар „Нівы")?**
*а) Бацькоўскія суботы,*
*б) Пяценка,*
*в) Шчадроўскія дзяды.*

**4. Хто аўтар унікальнага кампакт-дыска „Ліра", на якім прэзентуюцца лірніцкія песні, былі, апокрыфы, народныя рэлігійныя гімны, таксама з тэрыторыі Падляшша (спеў лірніка ўспамагаюць інструменты: корбавая ліра і дуды)?**
*а) Алесь Лось, мінскі мастак, этнамузыкант, этнолаг, іканапісец,*
*б) Дарафей Фіёнік з Музея малой айчыны ў Студзівадах,*
*в) Сцяпан Копа, гарманіст, збіральнік фальклору, родам з Малінік.*

Адказы дасылайце да 10 сакавіка 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 6:** У лютым адзначаем „Валянцінкі" (в); дахрысціянскі бог зімы — Зюзя (б); на шыбах найчасцей сустракаем матыў папараці (а); аўтар рэлігійнага гімна „Магутны Божа" — Наталля Арсеннева (в).

Узнагароды — кампакт-дыск „Мой родны кут" з беларускай музыкай **„Прымакоў"** — выйграў **Рафал Марчук** з Нараўкі. Віншуем!

Фота Міры ЛУКШЫ



# Памочніца

Я да бабулі кожны дзень заглядаю,
Бо я бабулі дапамагаю:
З'есці смачныя цукеркі,
Потым выкінуць паперкі.
Заўтра зноў туды пайду,
З'есці торт дапамагу!

# Палятушка

Вікі бегала, скакала,
Аж спадніцу разарвала.
Ужо цяпер сядзіць, не скача,
Толькі ў куточку плача.
— Праўды маме не скажу,
Маме крышку нахлушу.
А каб мама не крычала,
Буду маму прытуляла.

# Коцік

Мой маленькі коцік,
Адчыні свой роцік.
Дам табе я мяска,
Тут ляжыць каўбаска.
Мілы ты мой коцік,
Ужо поўны жывоцік?

**Вікторыя ПАТОНЕЦ**
**Старое Ляўкова**

# Як Радзівіл „Пане Каханку” вывучыў алфавіт

*(падляшская легенда)*

Як запамятаць на ўсё жыццё алфавіт? Большасць з нас ведае адзін спосаб: зазубрыць усё „на амін”!

А вось, адзін з самых багатых і вядомых вяльможаў Еўропы, славуты Радзівіл „Пане Каханку”, калі быў маленькім хлопчыкам, зусім не хацеў вучыцца. Усе загады і прапановы настаўнікаў адбіваліся ад яго як гарох аб сцяну. Бацькі даўно апусцілі рукі!

— Калі знойдзецца такі настаўнік, які навучыць майго сына пісаць і чытаць, — аб'явіў па ўсім Вялікім Княстве Літоўскім князь Радзівіл, — тады атрымае ён ад мяне ў якасці заплаты два добрыя маёнткі.

Неўзабаве з'явіўся, дзесьці ад Бельска, дзіўны настаўнік. Спачатку ён добра прыглядзеўся вясёламу хлапчуку. Маленькага князя проста распірала энергія і рыцарская фантазія. Ад наймалодшых гадоў хадзіў ён са стрэльбай, заражанай несапраўдным порахам. І ўсё страляў, ці то да якога чучала, ці да сапраўдных варон...

На першым уроку настаўнік загадаў малому дастаць стрэльбу і гэта вельмі спадабалася вучню. Пасля ён нарысаваў на дошцы літарку „а” і, з нотай недаверу, спытаў:

— А з дзесяці метраў пацэліш у гэтае „а”?

У маленькага Караля Станіслава загарэліся вочы. Ён ступіў на адмераную даль і стрэліў у размаляваную літарку. Пацэліў за першым разам!

— Брава! — адказаў суха настаўнік. — На сёння гэта канец урокаў...

Калі малы Радзівіл пакідаў свой клас, ён глянуў на настаўніка і з захапленнем спытаў:

— А заўтра якую літарку будзем вывучаць?

— Заўтра будзе літарка „б”!

— Яе таксама будзем „вывучаць” з дзесяці метраў? — дапытваўся малы.

— Паглядзім! Спачатку праверым яшчэ літарку „а”, з большай адлегласці. Згодны?

— Суперрр!

Як пазней паказала гісторыя, навука азбукі атрымалася паспяхова і не пайшла ў лес. Кароль Станіслаў Радзівіл „Пане Каханку” ўжо ў чатырнаццаць гадоў стаў паслом у сойм. У сваім жыцці займаў многія дзяржаўныя пасты, быў, між іншым, віленскім ваяводам. І адным з самых багатых і вядомых людзей у Еўропе ў другой палове XVIII стагоддзя. Праславіўся яшчэ неўтаймаваным пачуццём гумару і фантазіяй. Калі звяртаўся да нейкай асобы, заўсёды гаварыў „пане каханку”. Адтуль пайшла і яго мянушка. Род Радзівілаў моцна звязаны з нашым Падляшшам, іх сядзібы знаходзіліся, між іншым, у Орлі, Нарве, Белай-Падляшскай. У апошнім месцы наш герой менавіта дажыў сваіх дзён і памёр.

ЗОРКА



„Мірскі замак”, **Ганна Ваврусевіч**, Комплекс школ з дадатковым вывучэннем беларускай мовы ў Гайнаўцы

# Музыка з кайфам

## Папяровая свабода



У народзе гаворыцца, што калі нешта зроблена з паперы, дык яно нетрывалае. Цяжка мне было ў гэта паверыць, калі я глядзела на ўсе вясковыя аздобы, зробленыя якраз з паперы, ці пад святы, ці накладзеныя ў дубальтовыя вокны, ці на ёлцы. „Немагчымае, каб усё, што з паперы, было нетрывалае, шкада было б працы рук”, — так я думала, будучы дзяўчынкай. У паперы скрываецца нейкая моц і таямніца. Дастаткова паглядзець на цудоўную тэхніку арыгамі. Якая сапраўдная моц хаваецца ў паперы даказалі менскія дызайнеры, ангажуючы сваё ўяўленне ў праект „Freedom on Paper”.

Першапачаткова быў гэта водгук на страх беларускага грамадства перад адназначнай рэакцыяй у Дзень Волі 25 сакавіка 2011 г. Тады з'явіліся папяровыя постаці з бел-чырвона-белымі акцэнтамі, падарожжы якіх па Менску сустрэліся з вялікай прыхільнасцю назіральнікаў. Аказалася, што экскурсіі папяровых беларусаў не абмяжоўваліся толькі да сваёй Радзімы. Можна было іх сустрэць хаця б у Вашынгтоне, Нью-Йорку ці Атланце. Артпраект „Freedom on Paper” выйшаў у хуткім часе па-за межы звычайнай грамадскай цікаўнасці і ўвайшоў на мастацкі, а нават музычны ўзровень. Усё пачалося з часу, калі ў Беларусі сталі забараняць выступаць самым вядомым музыкам, сярод якіх апынуліся, між іншым, Зміцер Вайцюшкевіч, Лявон Вольскі, гурт „Нейра Дзюбель” ці „Ляпіс Трубяцкой”. Тыя выканаўцы ў сваім папяровым alter ego пачалі ладзіць канцэрты ў розных месцах сваёй любімай сталіцы. Пасля пачалі паяўляцца здымкі з розных выступаў, неабавязкова ў Менску ды нават неабавязкова ў Беларусі. Хваля папяровай свабоды пачала ахопліваць штораз большую тэрыторыю Еўропы і свету. Зараз здымкі з удзелам папяровых музыкаў ці проста беларусаў наведваюць выстаўкі і іншыя мерапрыемствы, дзе ўспамінаецца пра Беларусь ці пра свабоду. Ездзяць па свеце, а неўзабаве будзе можна наведаць выстаўкі ў Менску і Гародні. Можа і мы запросім іх да сябе?

Падрабязна наконт праекта глядзіце: http://paper.generation.by/

**i_basovka@o2.pl**

# Галерэя ЗОРКІ



Фота Ганны Кандрацюк

**1. Імя і прозвішча:** Матэвуш Навумюк (Непублічная школа імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку).

**2. Твой любімы прадмет:** інфарматыка.

**3. У жыцці хачу стаць:** інфарматыкам.

**4. У сяброў цаню:** шчырасць.

**5. Не люблю:** падману.

**6. Па-беларуску размаўляю:** з бабуляй Ленай, бацькамі, настаўніцай беларускай мовы.

**7. Кніжка, якая мяне захапіла:** люблю шмат кніжак.

**8. Падабаецца мне музыка:** беларуская, руская і польская.

**9. Тваё ўлюбёныя стравы:** спагеці ў выкананні мамы.

**10. Твой любімы спосаб адпачынку:** люблю чытаць кніжкі.

**11. Калі дарасту хачу жыць:** у Беластоку.

# Польска-беларуская крыжаванка № 9

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 5:**

Люты, Кіпр, мара, нага, сум, Марк, як, страхоўка, на, так, арт, гонар, кант, твой, дар. Янот, латка, юра, стой, стан, норка, мама, каморка, аўтар, парк, карта.

Узнагароды, дыдактычныя гульні (на беларускай мове), выйгралі **Кася Кічкайла, Марк Панькоўскі** з Нараўкі, **Магдалена Навіцкая, Патрыцыя Міхальчук, Габрыель Кузьміч** з Бельска-Падляшскага, **Адрыян Бугвін, Войтэк Куптэль** з Арэшкава, **Крыстыян Грушэўскі** з Дубін, **Рафал Вакулюк, Наталля Савіцкая** з Гайнаўкі. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Siodło | Dziadek | Jeszcze | | | | |
| Siodełko | | Pamiętnik | | On | | Szal<br>Ekologia | |
| | | | | | | | |
| Dzień | | | | | | No | |
| Lód | | | | Kwas | Rzeka | | |
| | | | Krąg<br>Ina | | | | |
| Sen | Niwa | | | | | | |
| Przechodzień pieszy | | | | | | | |
| | Irys | | | | | | |

Пятро КРУК

# Паралізаваў мяне страх

Была цёплая летняя нядзеля пасля абеду, калі ў Навасады з Казьмяроў (Скрыплева) прыйшла наведаць нас дваюрадная сястра Ніна. Уцешыліся і мамка, і я. Ніна была намнога старэйшая за мяне. Мая мамка хварэла, і мне не было з кім гуляць. Хаця жыла разам з намі і мая дваюрадная сястра Оля са сваёй мамкай, цёцяй Параскаю, удавою. Оля таксама была хворая — яна не гаварыла, хоць ёй было пяць гадоў. Оля слінілася, часта падала і трасла яе ліхаманка. Дзяўчынка тады скрыгітала зубамі, цёця плакала, а я баяўся ў той час падыходзіць да сястрычкі.

Мамка пачала распытваць Ніну, што чуваць у Казьмярах — пра дзеда Філіпа, дзядзьку Мікаля — Нінінага татку і майго хрышчонага, а мамчынага брата, пра цётку Гапку ды пра Валодзю, Нінчынага старэйшага брата. Валодзю было ўжо чатырнаццаць гадоў, быў з яго амаль кавалер! Мяне гэтыя роспыты не цікавілі. Я хацеў хутчэй пайсці на падворак, а тут мамка пачала плакаць, наракаючы то на вайну, то на тое, што няма ніякай весткі пра татку, ці жыве ён, ці можа ўжо загінуў ці трапіў у палон.

Калі адступалі савецкія войскі, я два дні чыпеў на брамцы, бо можа ісці татка. Так гаварыла мамка. Калі прыехаў грузавік з уласаўцамі (так называлі людзей у сініх касцюмах) і спыніўся каля Макарычай, я заўважыў на іхніх рукавах паяскі. Сумная мамка хадзіла пытацца ў іх пра татку, ды яны не вельмі хацелі гаварыць.

Мамка Нінку пачаставала падсушаным сырам з маслам. У нас была добрая малочная карова, мамчын пасаг. Трошкі мы — я, Оля і Ніна — пагулялі на панадворку. Пачало вечарэць і Ніна стала збірацца ісці дахаты. Я згануў мамцы, што хачу пайсці ў Казьмяры. Мама не згаджалася, ды Нінка папрасіла яе: „Цёцю Віро, пусціце Пецю, я яго праз два дні адвяду, а вы каплю адпачнеце ад яго". Мая мамка хвіліну падумала, а потым сказала, што магу ісці з Нінай: „Ды калі цёця Гапка скажа, што ты быў непаслушны, больш ніколі не пушчу!". Я ўцешыўся і пачалі мы збірацца ў дарогу. Ішлі мы басаном дарогаю, якая была калісь граніцай Белавежскай пушчы, а мы ўсе называлі яе Роў. Гэтая дарога раздзяляла навасадаўскія палеткі ад тадэўшоўскіх, лукашоўскіх і ясёўскіх, дубінскія — ад казьмяроўскіх, пасталоўскіх і пайдэнацкіх. Па той прасцейшай дарозе ад Тадэўшоў да Гайнаўкі толькі ў некалькіх месцах былі балоціны. Мы прайшлі праз ваду, якая выцякала з Лукашоўскай багны ў ардан па-за Мешаваю кузняю, і дайшлі да лонкі Макарэцкага. Там быў глыбейшы роў. Тут бярэ свой пачатак рэчка Лясная-Правая. Ніна перанесла мяне на спіне. Трэба нам было ў Казьмяры ісці тудою, іншай дарогі не было. Калі даходзілі мы да вёсачкі, над лесам паявілася хмара. Забліскалі маланкі, а калі дабягалі мы да хаты, ліную дождж. Убеглі мы на ганак. Учуўшы нашы галасы, выйшла цёця Гапка з невясёлай мінай. Калі мы ўвайшлі ў кухню, цёця сама пайшла ў каморку ды паклікала туды Ніну. У кухні было ўжо цёмна, а на дварэ шалела бура. Я пайшоў у каморку за Нінай і чую, што цёця кажа ёй: „Ніначка, заўтра немцы спаляць Казьмяры, бо ў Шымка ў кузні быў хтосьці (я не дачуў хто), ён бачыў як прыходзілі партызаны, а немцы таго не даруюць!".

Мяне паралізаваў страх. Цёця і Ніна сталі плакаць, а я стаў крычаць: „Я хачу да мамы!". Я ўжо ведаў, што значыць „спаляць", бо пару тыдняў раней, таксама ў нядзелю, я з мамкай быў у дзядзькі Ігната ў гаёўцы пад лесам у Лукашах, калі трох савецкіх партызанаў абстралялі нямецкую дрызіну і застрэлілі аднаго немца. А калі з Гайнаўкі прыехалі немцы і пачалі абстрэл Навасад, укінулі праз акно ў школу гранату. Успыхнуў пажар і стала гарэць вёска, а яны далей стралялі ў бок гаёўкі кулямі, якія ляцелі ды свяціліся. А каб нас не пастралялі, дзядзька загадаў нам легчы на падлогу і так выпаўзці, каб схавацца на падворку за падмуркам.

На мой крык цёця не мела іншага спосабу, каб сказаць, што аднясе мяне да мамы. Дзядзькі Мікалая, Валодзі і дзеда ў хаце не было. Цёця з вялікага мяшка зрабіла башлык, надзела на мяне яшчэ Нініна паліто. Я пачапіўся на цёціны плечы, абхапіў яе за шыю, Ніна накрыла нас башлыком, і цёця амаль чатырохгадовага хлопца панесла ледзь не тры кіламетры пасярод буры і ночы. А калі мы дайшлі да нашай хаты, цёця застукала ў акно. Пачуўшы мамчын голас, ад мяне адышоў увесь страх. Цёця сказала: „Гэта я, Гапка, Пецю твайго прынесла!". Мамка крыкнула: „Што сталася?!" і хутчэй пабегла адчыняць дзверы. Схапіла мяне з цёцінай спіны з плачам, а цёця ўздыхнула: „Я ўжо думала, што не данясу!". Я не хацеў злезці з мамчыных рук, учапіўшыся за яе шыю. Мамка выслухала цёцін расказ, абедзве паплакалі і цёця пайшла назад. Дождж перастаў ужо ісці...

Раніцай усе заміралі ад страху, ставячы пытанне, што зробяць немцы. А яны далі дзве гадзіны часу на тое, каб жыхары забралі ўсё што дадуць рады. Людзі з Навасад і з Дубін папрыязджалі фурамі і прасілі, каб немцы дазволілі разабраць будынкі і абяцалі, што да вечара з гэтым справяцца, ды ім не далі.

Вецярок дзьмуў з захаду. Першым будынкам у вёсцы быў хлеў Антона Лапінскага, крыты чырвонай дахоўкай. І ад яго пачалі паліць Казьмяры-Скрыплева. Наш панадворак быў ад боку лесу абгароджаны высокім плотам. Я ўзлез на гэты плот і бачыў, як успыхнуў першы агонь і як даходзіў ён да роднай мамчынай хаты.

Дэбют

Сцяпан КАРБОЎСКІ

# Замчыска

Урочышча Замчыска знаходзіцца над ціхай рэчкай Нурэц. Сёння я тут адзін. Глухая, амаль пустынная мясцовасць. Сярод надрэчнай дрыгвы ёсць таямнічы круг, з высокімі берагамі, усярэдзіне моцна паніжаны, на ім растуць дубочкі і алешнік. Мясцовая легенда гаворыць, што тут дзесьці з X стагоддзя стаяў высокі замак, у якім жыў магутны ўладар гэтых мясцін. Цяпер навокал вялікая ліпеньская цішыня, якая моцна ўплывае на спакой душы і псіхіку назіральніка. Праменне цёплага сонейка серабрыцца на дробненькіх хвалях ракі Нурэц, якая ляніва коціць свае воды, пазбіраўшы іх з навакольных крынічак, з усходу на захад. Судзіўшы з выгляду патаптанай і засмечанай травы, пустых кансервавых банак і бутэлек з-пад піва на пясчаным дне рачулкі, тут бываюць і іншыя зацікаўленыя людзі — малакультурныя турысты. Вада сёння цёплая, празрыстая, цячэнне ракі лянівае. На другім беразе вада лёгенька варушыць тонкі лазняк і чарот. У некалькіх месцах дае аб сабе знак разыграўшаяся рыба.

Нацешыўшыся жыццядайнай вадзіцай, уваходжу на пажоўклы аджары, пахучы гарам таямнічы круг. Перад вачыма адкрываецца вялікі плоскі краявід. Неба без хмурынак, галубаватае, далей краяглядсцякаецца ў сінюю бясформенную даль. Я гляджу навокал сябе, узіраюся ў гэтую далячынь і вось: з левага боку, на захадзе сонца, стаіць сяло Шашылы, з правага на ўсход — малое сяльцо Паўлінава, а проста на поўнач — Чахі-Забалотныя. Стаяць яны на выспе, сярод балот ракі Нурэц; ад гэтага, мабыць, і пайшла назва пасялення... Тут я ўспомніў аб далёкіх пражытых гадах, прастрэлены вайною маладосці. Даўно гэта было, памятаю — быццам усё гэта ўчора было.

Цудоўныя і цёплыя ліпеньскія дні 1944 года. Над вакольнымі балотамі ігралі блікі яркага летняга сонейка. Па дарозе з Кляшчэляў на Боцькі, падымаючы пыл, цягнуліся ваенныя абозы. Гэта немцы адступалі на захад. Два нямецкія самалёты кружылі над чыгуначным вузлом станцыі Чаромха, кінуўшы некалькі бомбаў, і паляцелі на ўсход. Адтуль чуваць было артылерыйскі гул. Там ішлі баі за Брэст і Высокае. Немцы валакліся пехатою, апусціўшы галовы: саветы збілі ім былую арыйскую гордасць.

Вечарам у нашу хату зайшоў фельдфебель з іншым чалавекам і на вуха сказаў майму бацьку: „Скоро нет война. Крыг капут". Ён падышоў да мяне, прыгарнуў да сябе, моцна заплакаў і паклаў мне ў кішэнь плітку шакаладу — першую ў маім жыцці. Раней аб такім эпізодзе нават падумаць было б страшна і немагчыма... Выходзіўшы на панадворак, той другі чалавек на ўкраінскай мове раіў нам: „Тут у любы дзень можа быць бойня-фронт, і лепш было б, каб людзі выехалі з сяла і забралі з сабою ўсю маёмасць". Гаспадары хаты Павел і Ганна, мае бацькі, сказалі старэйшым сынам Янку і Васільку, каб пайшлі па хатах і паўтарылі тое, што гаварыў украінец. Праз нейкі час у вёсцы пачаліся мітусня і гоман. Старэйшыя мужыкі загадалі падавацца брадамі на Замчыска, якое, на іх думку, было самым бяспечным месцам у ваколіцы, адасобленым ад шляхоў. Павел з сынамі запрэглі буланага каня ў драбіністы воз, загрузілі сала, хлеб, гаршкі, вопратку, хлебныя сухары. Маці Ганна прыказала яшчэ вылавіць курэй і парасятак, проста ў мяшкі.

Пасля цёплага дня была парная ноч. Бацькі ўхуталі мяне радзюжкамі на возе і сказалі, каб я спаў. Янка і Васіль мелі заданне: раніцай прыгнаць карову і авечак на Замчыска.

Вакол воза над галовамі нашымі і буланчыка ігралі камары. Недзе на ўсходзе далёка дрыжэлі зарывы пажараў. У цёмным начным паветры гудзелі самалёты. Тата загаварыў, што гэта савецкія самалёты, ляцяць бамбіць Бельск-Падляшскі: тамака ёсць нямецкі аэрадром.

Праехаўшы даволі доўгія брады, апынуліся мы ў нішы таямнічага круга — Замчыска. Мяне разбудзіў гоман аднасяльчан, што ехалі да нас доўгім абозам. Наш бацька паставіў пад дубам будан, накрыў яго галлём алешніку. З воза разгрузілі мы сваю маёмасць з мяхоў крыху развязаных і прычэпленых да драбін. Сакаталі куры і паквіквалі парасяткі. Неўзабаве маладыя сяляне, хлопчыкі ды дзяўчаткі прыгналі кароў, прынеслі на плячах, як дзетак, бэклівых авечак. Кароў зараз перагналі за чацвёрты брод, у сухавольскія сенажаці, каб там пасвіліся. У гэтым крузе прыйшлося вяскоўцам жыць чатыры дні.

Надышоў памятны дзень 22 ліпеня 1944 года. Немцы надалей валакліся на захад. Па іх калонах біла артылерыя. Ад усходу за нашай вёсачкай паявіліся пярэднія часці савецкіх войскаў. На ўзгорку каля Краснага Сяла немцы акапаліся. Саветы лупілі па немцах з лёгкіх гармат, танкетак. Перашкодай нямецкім наводчыкам была забудова сяла. Ударылі запальнымі снарадамі, успыхнуў пажар. За ўзгоркам ад Москаўцаў завылі слаўныя кацюшы, замоўклі немцы і савецкія гарматы. Мужыкі рассудзілі, што фронт пайшоў на Боцькі. Жанчыны вельмі плакалі-лямантавалі, што гарэлі іхнія гнёзды і не будзе куды прыхіліць галовы ім і малым дзеткам. Усе пачалі збірацца ехаць „дамоў"...

На ўсходзе дыміліся гарэўшыя вёскі ды ржышчы. Паветра пахла гарэлым зернем, смалінай і спаленай хатняй жывёлай. Гэта адступаючыя немцы палілі на сваім шляху копы збожжа і сяленні. Дым сіняватага колеру акрываў увесь краявід і вісеў над ім да ранку наступнага дня. У вёсцы ўратаваліся дзве хаціны і адна клуня. Сумна ў неба пазіралі каміны, абгарэлыя дрэвы, людзі на папялішчы сваіх сядзіб. Буслы лялалі, дарэмна шукаючы сваіх гнёзд. Нашы тата з мамай падаліся ў Паўлінова, у маёнтак пана Пятра Шульца, за імі яшчэ некалькі сем'яў вяскоўцаў — там мы ўсе жылі да 1948 года, на сваёй бацькаўшчыне клеціўшы новыя дамы...

Язноў углядаюся ў сіняватую далячынь, да болю ў вачах. З надыходам вечара яе колер гусцее, робіцца цёмна-сінім. Сонейка пачынае хавацца за зялёную грыву дуброў, прысела яшчэ над рэчкай. Вада пахне водарасцямі і рыбай. На дубочках на начлег схаваліся птушкі, у рэчцы кракаюць дзікія качкі. Ліпеньскі дзень дагарае. Над асушанай дрыгвой гусцее змрок. Некалькі назойлівых камароў лятае над маёй ссівелай галавою, спяваючы сваю вечную песню. Яны мяшаюць думаць пра красу адыходзячага дня, бязмежныя далі, акалечанае дзяцінства.

**Музей малой айчыны ў Студзіводах выйшаў з чарговай прапановай да людзей, зацікаўленых гісторыяй і культурай Бельшчыны, інаўгуруючы 10 лютага ў мяшчанскім доме ў Студзіводах дзейнасць Майстэрні гісторыі і культуры „Бельскі гостінэць”. У рамках гэтай установы прадбачваюцца цыклічныя даклады і дыскусійныя сустрэчы, а таксама даследаванні мясцовай гісторыі і культуры.**

# Майстэрня гісторыі і культуры інаўгуравала сваю дзейнасць

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

У час першай сустрэчы ў рамках дзейнасці майстэрні адбылася першая публічная прэзентацыя часткі тлумачэння „Кнігі памяці яўрэяў Бельска-Падляшскага”, якая напісана была на ідыш, габрэйскай і часткова на англійскай мовах. Хаця тлумачэнне кнігі памяці на польскую мову, якое рэалізуецца ў рамках дзейнасці Студзіводскага музея, яшчэ не завершана, то ў час спаткання можна было ўжо пазнаёміцца з яго першымі цікавымі рэзультатамі. Тэксты аб яўрэях публікуюцца таксама ў навейшым 44 нумары „Бельского гостінця”. 2012 год — гэта пятнаццаты, юбілейны год выдавання гэтага гістарычна-краязнаўча-культурнага часопіса.

— Ідэя стварэння нашай майстэрні паявілася восенню мінулага года, у час гістарычнай канферэнцыі ў нашым мяшчанскім доме. Плануем чытаць даклады, у час спатканняў абменьвацца ведамі і думкамі, каб магчы больш паспяхова весці даследаванні, якія нас цікавяць.






Дарафей Фіёнік прыпомніў, што 2012 год — гэта пятнаццаты, юбілейны год выдавання гістарычна-краязнаўча-культурнага часопіса „Бельскі гостінэць”. Злева — Войцех Каноньчук

Спадзяемся, што пастаянныя сустрэчы будуць штуршком для больш напружанай працы, — сказаў старшыня аб'яднання „Музей малой айчыны ў Студзіводах” і заадно бельскі гісторык Дарафей Фіёнік. — У рамках майстэрні прадбачваем разглядаць тэмы важныя, сур'ёзныя і часам нават спрэчныя. У назве майстэрні мы свядома не памесцілі слова „Падляшша”, бо хочам таксама разглядаць справы важныя і цікавыя з-па-за нашага рэгіёна. Напрыклад, можна было б запрасіць Тамаша Саевіча, каб расказаў нам пра Кітай, дзе ён працуе.

Дарафей Фіёнік разам з сястрой Анай Фіёнік падрыхтавалі сабраным гарачую гарбату і піражкі. Хаця на панадворку было пад дваццаць градусаў марозу, пад мяшчанскі дом у Студзіводах пад'язджалі на машынах людзі, перш за ўсё бяльшчане. У галоўным пакоі хаты сабраліся таксама аматары гісторыі яўрэяў, паколькі адна з галоўных тэм мела датычыць жыцця жыдоў Бельскай зямлі.

Спатканне распачалося з прэзентацыі навейшага 44 нумара „Бельского гостінця”, які выдае Студзіводскі музей. Яго галоўны рэдактар Дарафей Фіёнік удакладніў, што сёлета выпадае ўжо пятнаццаты год выхаду часопіса, які першапачаткова выходзіў штоквартальна, а зараз два разы ў год.

— Мы ў 1998 годзе распачыналі выдаваць „Бельскі гостінэць” у Падставовай школе № 3 у Бельску-Падляшскім, а яго першымі рэдактарамі былі Міхал Сцепанюк, Тамаш Суліма, Марк Хмур і Валянціна Бабулевіч (і, канешне, Дарафей Фіёнік — А. М.). Да 2009 года выдаваўся ён як сшытак, чатыры або тры разы ў год. Цяпер „Бельскі гостінэць” выходзіць у выглядзе кніжкі, як паўгадавік і гэта аптымальны для нас варыянт (каля 120 старонак якаснага выдання — А. М.), — гаварыў Дарафей Фіёнік. Падкрэсліў, што тэксты ў часопісе друкуюцца на польскай, беларускай, расійскай літаратурных мовах і на гутарковай мове беларусаў Падляшша.

У навейшым нумары „Бельского гостінця” можна прачытаць, між іншым, пра дзейнасць аб'яднання „Музей малой айчыны ў Студзіводах” у 2011 годзе, пазнаёміцца з матэрыяламі гістарычнай канферэнцыі, што адбылася восенню мінулага года, з гісторыяй Студзіводаў, з гістарычнымі матэрыяламі пра Бельск-Падляшскі і Дубяжына, з лёсамі некаторых сем'яў з Бельшчыны. Многа матэрыялаў датычыць жыцця яўрэяў у Бельску (гэтую тэму „Бельскі гостінэць” працягвае прыблізна ад двух гадоў, ад часу, калі Музей малой айчыны ўстанавіў у Бельску-Падляшскім мемарыяльную дошку, прысвечаную бельскім яўрэям). Тады таксама ўзнікла ідэя, каб перакласці на польскую мову „Кнігу памяці яўрэяў Бельска-Падляшскага”. Хаця гэтая задума рэалізуецца павалі, то ўсё ж такі паспяхова, бо перакладзена ўжо большасць тэксту.

— „Кніга памяці яўрэяў Бельска-Падляшскага” гэта шэдэўр для людзей, якія цікавяцца гісторыяй Бельска і наваколля. У зробленым дагэтуль перакладзе мы знайшлі цікавыя звесткі, якія пацвердзілі нашыя веды пра мінулае горада, — заявіў Дарафей Фіёнік.

Жыццё бельскіх яўрэяў было шчыльна спалучанае з жыццём беларусаў, палякаў і людзей іншых нацыянальнасцей і таму інфармацыя з кнігі памяці так важная ў плане апісання штодзённага жыцця ў Бельску ў цэлым. Бельскія жыды вельмі актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім і культурным жыцці горада. Іх успаміны могуць адкрыць многа цікавага, перш за ўсё з міжваеннага перыяду і з другой сусветнай вайны, калі было створанае гета, а пасля вывезлі яўрэяў у канцэнтрацыйныя лагеры. У кнізе памяці, збудаванай на паасобных успамінах жыдоў, маецца таксама інфармацыя з перыяду першай сусветнай вайны.

— На падставе кнігі памяці можна даследаваць мінулае Бельска. Апісваючы сваіх сяброў і знаёмых, яўрэі расказвалі таксама аб мясцовых беларусах, — сказаў Тамаш Суліма са студзіводскага музея. — Больш паглыбленыя даследаванні гісторыі Бельска можна будзе весці ў рамках нашай майстэрні, якой дзейнасць павінна дазволіць на больш сістэматычную працу.

Сустрэчу ў мяшчанскім доме вялі Дарафей Фіёнік і Войцех Каноньчук з Асяродка ўсходніх даследаванняў у Варшаве (сабраным напомнілі, што ён з роду Тымашыцкіх, якога прадстаўнікі жылі ў Бельску-Падляшскім і ў маёнтку ў Шчытах-Навадворах). Між іншым даследуе ён гісторыю Бельшчыны, а ад двух гадоў даглядае за перакладам „Кнігі памяці яўрэяў Бельска-Падляшскага”.

— „Кніга памяці яўрэяў Бельска-Падляшскага” выдадзена была прыблізна 47 гадоў таму ў Тэль-Авіве ў Ізраілі. Яе аб'ём — 550 старонак; прыблізна 300 напісаных на габрэйскай мове, 200 — на мове ідыш і толькі 50 старонак на англійскай мове. Пісалі гэтую кнігу больш за 40 яўрэяў. Усе яны — выхадцы з Бельска-Падляшскага, якія пасля вайны жылі ў Ізраілі, Злучаных Штатах Амерыкі, Аргенціне, Аўстраліі, Германіі і СССР. Зрабіць пераклад гэтай кнігі — амбіцыйны ў фінансавым плане праект і мы ўжо каля двух гадоў паспяхова яго рэалізуем за сродкі, якія ўдаецца сабраць на гэтую ініцыятыву. Яўрэі, якім удалося выехаць з тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, хацелі пакінуць па сабе матэрыяльны след і з гэтай мэтай пісалі кнігі памяці. Было створаных каля 500 кніг памяці, у якіх апісваецца жыццё ў мінулым у паасобных мясцовасцях на землях Рэчы Паспалітай. Ёсць ажно тры кнігі памяці аб Беластоку, які практычна быў створаны яўрэямі, але ніводная з іх не перакладзена дагэтуль на польскую мову. А Беласток жа ж у мінулым быў цэнтрам яўрэйскага жыцця на гэтых землях, — гаварыў Войцех Каноньчук. — Мова ў кнізе аб Бельску жывая і сакавітая, а гісторыі людзей цікавыя і таму бельская кніга павінна лёгка чытацца.

Звесткі аб яўрэях у Бельску-Падляшскім паявіліся ўжо ў канцы XV стагоддзя. Вялікая міграцыя жыдоў у Бельск распачалася ажно ў пачатку XIX стагоддзя і ўжо ў другой палове XIX стагоддзя яўрэі састаўлялі большасць жыхароў горада. Перад другой сусветнай вайной больш за 40% насельніцтва Бельска складалі жыды. У час спаткання чыталіся фрагменты бельскай кнігі памяці, а Войцех Каноньчук і Дарафей Фіёнік расказалі аб лёсах некаторых бельскіх яўрэяў.

— Мы хочам узбагаціць пераклад кнігі памяці ўспамінамі яўрэяў, якія мы сабралі і друкуем у „Бельскім гостінцю”, — заявіў Дарафей Фіёнік. Паінфармаваў ён таксама, што ў студзіводскім музеі прадбачваецца адкрыццё бібліятэкі-чытальні, у якой можна будзе на месцы чытаць кніжкі са студзіводскага кнігазбору.

— Мы выдалі дзве кніжкі — „Унія ў Курашаве” Міколы Давідзюка, якая чытаецца вельмі прыемна, як гістарычная аповесць, і „Ласінка. Мінулае прыхода на акраіне Лядскай пушчы”. Зараз рыхтуем да друку аповесць Ігара Закшэўскага, якой Бельск яшчэ не меў (жыў ён у гэтым горадзе і ахвотна вяртаецца да яго ўспамінамі — А. М.). Можна сказаць, што Ігар Закшэўскі, як журналіст і пісьменнік, напісаў удалую кніжку, якая будзе надрукаваная ў арыгінале, на польскай мове, і адначасна ў аўтарскім перакладзе на расійскую мову. Хочам таксама выдаць кніжку аб сям'і Антыховічаў, аўтарства Людмілы Антыховіч-Валынец. Спадзяемся, што ўдасца нам выдаць пераклад на польскую мову „Кнігі памяці яўрэяў Бельска-Падляшскага”, — падводзіў вынікі працы музея і расакрэчваў бліжэйшыя планы старшыня студзіводскага аб'яднання Дарафей Фіёнік. Прадбачваецца, што ў час чарговага спаткання ў рамках студзіводскай майстэрні адбудзецца прэзентацыя „Слоўніка бельска-падляшскай гаворкі”, створанага перш за ўсё на аснове слоўніка вёскі Храбалы аўтарства Міколы Врублеўскага.

# Царква св. Дзмітрыя ў Саках

## З мінулага

Сакі Кляшчэлеўскай гміны гэта даўнейшая баярская вёска, якая, мабыць, узнікла напрыканцы XV стагоддзя. Гісторыя ўзнікнення царквы ў Саках дакладна звязваецца з цудоўнай іконай св. Дзмітрыя Салунскага. Паводле мясцовай легенды, першую каплічку, затым царкву, збудавалі ў месцы, дзе прабудзіўся разам з іконай жыхар адной з навакольных вёсак, які раней знаходзіўся ў турэцкім палоне. Царква праўдападобна пацярпела ад пажару. Першыя пісьмовыя звесткі аб царкве ў Саках паходзяць з канца XVI стагоддзя. Паводле кліравай ведамасці Дубіцкай парафіі, ў 1595 годзе царкву ў Сакі перавезлі з вёскі Дубічы. І гэтая, як і ранейша царква, таксама пацярпела ад пажару. Цудам выратавалася ад знішчэння, як у першым так і ў другім пажарах, ікона св. Дзмітрыя.


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Цяперашняя царква св. Дзмітрыя паходзіць з XVIII стагоддзя. Устанавіў яе шляхецкі род Сакоўскіх. Сведчыць аб гэтым Генеральная візітацыя дубіцкай царквы за 1727 год. З гэтага дакумента вынікае, што ў XVIII стагоддзі царква ў Саках была філіяльнай царквой Дубіцкага прыхода. Служылася ў ёй набажэнства раз у год у час свята ў гонар св. Дзмітрыя Салунскага. Пад канец XIX стагоддзя царкву грунтоўна адрамантавалі і паўторна пасвяцілі 26 кастрычніка 1890 года. Побач была ўзведзена званіца. У 1889 годзе з дубіцкай царквы перанеслі ў Сакі стары іканастас і ўстанавілі новы алтар. У 1900 годзе царкву пакрылі новым гонтам і ўсталявалі новы жалезны крыж. У гэтым часе набажэнствы ў Саках служыліся тры разы ў час Вялікага посту (вялікапосная споведзь), на трэці дзень Вялікадня, у дзень св. Дзмітрыя, на трэці дзень Божага Нараджэння, а таксама па просьбе вернікаў. У міжваенны перыяд царкву рамантавалі. У 1950-х гадах храм разбудавалі і пакрылі бляхай. У 1990 годзе быў праведзены капітальны рамонт а сцены адрэстаўравалі новым матэрыялам.

Прыход у Саках самастойным лічыцца з 27 сакавіка 1992 года, калі далучылі да яго Тапаркі з Арлянскай парафіі. Першым настаяцелям быў а. Алім Русіновіч, які паслугу выконваў да 27 чэрвеня 1998 года. Чарговыя тры гады прыход у Саках узначальваў а. Славамір Аўксенціюк. 16 ліпеня 2001 года, калі заснаваны быў манастыр св. Дзмітрыя Салунскага ў Саках, настаяцелем прыхода назначылі архімандрыта Варсанофія (Дарашкевіча). З 1 кастрычніка 2009 года абавязкі намесніка манастыра св. Дзмітрыя Салунскага і заадно настаяцеля прыхода выконвае ігумен Цімафей (Саўчук).

## Аднаўленне царквы

Працы па рэстаўрацыі старадаўняй царквы св. Дзмітрыя ў Саках пачаліся ў 2007 годзе. Спачатку была зроблена экспертыза. На афармленне дакументацыі Маршалкоўская ўправа прызначыла 3 тыс. зл., апошнія 1 026 зл. пакрылі з прыхадской касы. У наступным годзе пачаліся рэстаўрацыйныя работы. З даху знялі бляху і пакрылі яго гонтам. Насыцілі кроквы і званіцу, адрамантавалі сцены. Кошт работ склаў амаль сто тыс. зл. Маршалкоўская ўправа прызначыла на гэтую мэту 30 тыс. зл., 60 тыс. зл. з Касцельнага фонду прызначыла Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі і 9 755,92 зл. пакрыла прыхадская каса. У 2009 годзе былі грунтоўна адрамантаваны сцены, скляпенне і кроквы. Кошт інвестыцыі — 68 646, 23 зл. — пакрылі датацыі Маршалкоўскай управы (32 000 зл.), гміны ў Кляшчэлях (20 000 зл.) і 16 646,23 зл. паступіла з прыхадской касы. У 2010 годзе праводзіліся рамонт столі і мадэрнізацыя электраправодкі. Гэтая інвестыцыя абышлася сумай 154 998, 01 зл. На гэтую мэту было выдзеленых 99 527,56 зл. датацыі Міністра культуры і нацыянальнай спадчыны, 30 000 зл. — Маршалкоўскай управы і 25 470,78 зл. сабраных вернікамі. У мінулым годзе былі заменены дзвярная і аконная сталярка, падлогі і ўнутраная шалёўка сцен. Кошт інвестыцыі — 200 348,98 зл. На гэтую суму склаліся датацыя Міністра культуры і народнай спадчыны — 100 тысяч зл., апошнія 100 348, 98 зл. паступілі з прыхадской касы. Як сказаў намеснік манастыра св. Дзмітрыя Салунскага ігумен Цімафей, зараз літургія ў царкве служыцца кожную нядзелю з дзявятай гадзіны раніцы. У набажэнстве ўдзельнічае каля сямідзесяці вернікаў. Асноўнымі святамі, якія адзначаюць прыхаджанне ў Саках, лічацца Праабражэнне Гасподняе (Спаса) — 19 жніўня, св. Дзмітрыя — 8 лістапада і св. Нектарыя Эгінскага, які з'яўляецца заступнікам хворых на пухліну (рака) — 22 лістапада. У гэты дзень літургія служыцца ў капліцы манастыра св. Дзмітрыя, паколькі св. Нектарый з'яўляецца заступнікам гэтага храма.

**Уладзімір СІДАРУК**

---

## http://belmova.org

У час інтэрнэта неабходнасць у друкаваных слоўніках ставіцца пад вялікае сумненне. Мала таго, што амаль кожны пошукавік змяшчае перакладчыцкі сэрвіс, так яшчэ з'явілася маса сайтаў, якія адмыслова створаныя як віртуальныя слоўнікі. Праўда, колькасць моў для перакладу там меншая, чым у пошукавіках, але якасць перакладу, як сведчыць практыка, значна большая. Гэта наўпрост тычыцца сайта BelMova, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://belmova.org.**

Шчыра кажучы, не зусім зразумела, чаму стваральнікі віртуальнага слоўніка назвалі яго так гучна. Здаецца, больш пасавала б тут назва так ці інакш звязаная з перакладам ці ўласна словам „слоўнік" у разнамоўных яго напісаннях. Але як кажуць „пан — гаспадар" — як аўтары назвалі даны сайт, так няхай і будзе.

Галоўная старонка сайта выглядае не зусім прывабна. На нібыта разгорнутым аркушы паперы змешчаны невялікі тэкст-прывітанне, які адначасова запрашае наведвальнікаў да супрацоўніцтва з аўтарамі праекта. Таксама там паведамляецца, што сайт пакуль у распрацоўцы, таму яго ўладальнікі спяшаюцца папрасіць выбачэння „за неўдасканаленасць і непаладкі". Крыху ніжэй ідуць новыя словы і выразы, што апошнім часам папоўнілі слоўнік.

Усе выйсці да старонак знаходзяцца з левага боку і, што нязвыкла, знізу. Іх не вельмі многа — усяго, калі не лічыць галоўнай старонкі, сем. Разам з тым кожная выконвае ўласную функцыю, не дублюючы функцыі іншых.

„BelMova гэта незалежны адкрыты праект. Праект створаны дзеля пашырэння ведаў беларускай мовы і ўдасканаленых перакладаў на шматлікія замежныя мовы. Кожны жадаючы, хто мае ўдасканаленыя веды беларускае мовы і/ці замежнае мовы, можа стаць адным з сааўтараў гэтага праекта", — так прэзентуюць свой віртуальны слоўнік яго ўладальнікі і распрацоўшчыкі ў рубрыцы „Пра праект". Адначасова яны распавядаюць пра свае бліжэйшыя планы ўдасканалення сайта. А гэта — дадаць RSS-рассылку для слоў і выразаў, дадаць функцыю „дашлі старонку", павялічваць колькасць слоў і выразаў і іх перакладаў, дадаць гукавыя кліпы да слоў, стварыць розныя лакалізацыі сайта і дадаць урокі беларускае мовы.

Як бачым планы велічэзныя, ну а наколькі яны выканальныя для гэтых невядомых летуценнікаў, пакажа час. Пакуль сайт-слоўнік прадстаўляе магчымасць знайсці пераклад не толькі кожнага слова паасобку (калі, канешне, яно ёсць у змесце), але і цэлых выразаў. Дарэчы, кожная такая функцыя знаходзіцца на старонках „Словы" і „Выразы". Там гэтыя лексічныя адзінкі сістэматызаваны ў алфавітным парадку.

Калі камусьці нешта будзе не зразумела, то для яго прамы шлях на старонку „Запытаць". Запыт можа быць зроблены на любой з дзевяці моў прапанаваных у адпаведным акенцы. Праўда, пазначана там яшчэ і „іншая", што крыху дзіўна, бо навошта тады быў патрэбны выбар адной з дзевяці моў, калі аўтары сайта здольныя зразумець якую заўгодна без яе пазначэння.

Даволі цікавай падаецца старонка „Спасылкі". Адтуль ёсць магчымасць выйсці, у прыватнасці, на такія сайты як Open-Tran.eu (аўтапераклад файлаў з англійскай на беларускую лацінку) альбо „Форум аб беларускай лакалізацыі кампутарных праграм".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

## Скарбы Беларусі

### Моўчадзь і млыны

Моўчадзь ці Моўчадка — гэта левы прыток Нёмана, які бярэ пачатак на тэрыторыі Баранавіцкага раёна і працягваецца ў Дзятлаўскім, працякаючы пераважна па Навагрудскім узвышшы. Агульная яе працягласць амаль сто кіламетраў. Каб спазнаць характар ракі, патрэбна па ёй праплыць. Маё знаёмства з рэчкай Моўчаддзю, у прахалоднай вадзе якой было так прыемна купацца, пачалося яшчэ са студэнцкіх гадоў. Але толькі ўлетку 2011 года ўдалося выбрацца на першае воднае падарожжа па ёй.

Узначаліў сяброўскую троxдзённую экспедыцыю „наш Тур Хеердал" — Валерый Петрыкевіч, спрактыкаваны падарожнік, які ў свой час прайшоў у водных паходах розная роўню складанасці тэрыторыю ўсяго былога Савецкага Саюза — ад Далёкага Усходу да Таджыкістана, ад Карэліі да Карпатаў. З дасведчаным Валерыем у адной байдарцы нават пачатковец пачуваецца ўпэўнена. Галоўнае ў такім падарожжы — гэта не толькі цікавыя краявіды, але і сяброўская атмасфера, а з гэтым у нашым квартэце было проста файна. Да таго ж шчырыя сустрэчы ў час прывалаў і месцаў начлегу з мясцовымі краязнаўцамі, якія сталіся магчымымі дзякуючы мабільнай сувязі — усё ж і прадметы сучаснай цывілізацыі могуць быць карыснымі ў такіх вандроўках.

Стартавалі мы каля вёсак Агароднікі і Краміяніца ў мясціне, дзе стаіць будынак старога, проста агромністага млына. Дарэчы, у энцыклапедычным даведніку „Блакітны скарб Беларусі" прыгожы фотаздымак гэтага млына памылкова падаецца як месца ля вёскі Дварэц. А мне адразу прыгадаўся прыватны млын-музей у адным з нямецкіх гарадоў. Агародніцкі шматроўневы млын мог бы стацца сапраўдным музейным аб'ектам, але зараз ён у занядбаным стане з разбураным дахам, на якім знайшлі сабе прытулак буслы. Ля Дварца таксама ёсць рэшткі старога млына, але гэта зусім іншая гісторыя. За адбудову дварэцкага помніка доўга змагаўся былы дырэктар мясцовай школы Аркадзь Сокал. Мы сядзелі разам на беразе ракі, адкуль былі бачны царква і касцёл, і размаўлялі пра гісторыю мясцовасці. Калісьці тут ішло змешванне балцкага і славянскага этнасу, паблізу былі крэйдавыя шахты, падобныя на славутыя краснасельскія. Цікава, што ў Дварцы (раней мясцовасць называлася ў множным ліку) распаўсюджаныя прозвішчы Каралі і Цары — так што ўсё адпаведна. Мясцовы муравана-драўляны млын, які належаў роду Пратасевічаў, быў адным з першых на Гарадзеншчыне і выконваў ажно 4 аперацыі. Была мясцовая дынастыя млынароў па прозвішчы Кветка. Ёсць легенда пра тое, што менавіта ў дварэцкім млыне была схованка вядомага арганізатара вызвольнага паўстання Міхала Валовіча. Ранейшыя дырэктар і старшыня калгаса дбалі пра помнік, быў адноўлены нават дах, але знайшлася зладзейская рука, якая падпаліла будынак. Пасля знішчальнага пажару больш да яго нікому справы няма.

Бліжэй да Нававельні рэчышча і берагі Моўчадзі істотна мяняюцца. Берагі з гадамі зарастаюць, раней на іх было куды людней, так што зручнае месца для высадкі і стаянкі знайсці ўжо не так проста. Урэшце, пераадолеўшы водныя заторы, якія ўтвораны паваленымі дрэвамі і карчамі, выплываем на шырокую паверхню Навасёлкаўскага вадасховішча. Тут вялікая прастора для арнітолагаў і аматараў расліннасці. Пад самай Нававельняй стаіць гідраэлектрастанцыя і, каб прадоўжыць падарожжа, байдаркі патрэбна перацягваць праз дарогу з мостам волакам. Апошні наш начлег быў пад Баравікамі, куды любяць прыязджаць адпачываць людзі сем'ямі.

А сёлета ізноў хочацца выправіцца ў далейшую вандроўку па Моўчадзі...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Стары фотаздымак сям'і Паўла Лысухі

**Пасля маёй публікацыі ў „Ніве” (08.01.2012) артыкула пра праваслаўнага святара протаіерэя Паўла Лысуху (1892-1954), які 27 гадоў адслужыў у Свята-Мікалаеўскім кафедральным саборы ў Беластоку, на мой хатні адрас прыйшло пісьмо з Амерыкі ад спадарыні Марыі Данілюк — жонкі пакойнага Барыса Данілюка (1923-2011). Спадарыня Марыя разам з пісьмом прыслала стары фотаздымак святара Паўла Лысухі з сям'ёй, які быў зроблены ў мястэчку Рось Ваўкавыскага павета 20 чэрвеня 1926 года.**

На адваротным баку здымка напісаны словы: „На добрую памяць дарагім сябрам Хведару і Матушцы ад свайго дома дэкана Паўла Лысухі, 20 чэрвеня 1926 года, м. Рось”.

Аказваецца, Павел Лысуха свой здымак з сям'ёй падараваў земляку Хведару Данілюку (1877-1960) — беларускаму нацыянальнаму дзеячу, вайскоўцу, праваслаўнаму святару, бацьку Барыса Данілюка і свёкру Марыі Данілюк. Вось яны і захоўвалі гэты здымак 86 гадоў. Хведар Данілюк таксама быў родам са Слонімшчыны, скончыў Жыровіцкую праваслаўную семінарыю. Прымаў удзел у Слуцкім паўстанні. 21 верасня 1921 года ён быў высвечаны гродзенскім епіскапам Уладзімірам у святары. У міжваенны час Хведар Данілюк ачольваў праваслаўныя прыходы на Слонімшчыне. А ў 1942 годзе, у якасці прадстаўніка ад Навагрудскай епархіі, удзельнічаў у Беларускім праваслаўным саборы ў Мінску, на якім была абвешчана БАПЦ. Пасля вайны з сям'ёй жыў у ЗША, дзе займаўся царкоўнымі справамі.

У пісьме спадарыня Марыя Данілюк напісала: „У сваім хатнім архіве я знайшла здымак айца Паўла Лысухі з сям'ёй. Я яго ніколі ў жыцці не бачыла, бо ў вёсцы Сурынка я была толькі адзін раз, і то вечарам. Але, на шчасце, здымак падпісаны. Мы на Слонімшчыне жылі на хутары Падгорцы. Мой тата быў на заробках у Амерыцы, а калі адтуль прыехаў, то купіў там зямлю ў графа Слізьня. Там мы і жылі”.

Павел Лысуха і Хведар Данілюк былі родам з адной слонімскай вёскі Сурынка. Таму яны ўсё жыццё сябравалі, нават перапісваліся. І толькі пасля смерці Паўла Лысухі ў Беластоку ў 1954 годзе іх сувязь спынілася. Гэты фотаздымак — яшчэ адзін напамін пра беларускага протаіерэя.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Брудныя аўтобусы БГК

Дні і ночы ад 28 студзеня г.г. былі марозныя. Ад гэтага часу аўтобусы гарадской камунікацыі ў Беластоку ездзяць запыленыя, брудныя, з засохлай граззю звонку. Чаму? Можа Беластоцкая гарадская камунікацыя (БГК) не мае аўтамыек? Можа не мае цёплых гаражоў, дзе можна памыць аўтобус?

Калі пасажыры непрадбачліва праціскаюцца да дзвярэй, брудзяць сваю зімнюю вопратку. Так не павінна быць. І з сярэдзіны аўтобуса цяжка што ўбачыць праз брудныя, а бывае ж часта замарожаныя шыбы. Гэта для карыстальнікаў гарадской камунікацыі вялікая нявыгада.

Ці няма ніякай рады на тое, каб па горадзе ездзілі чыстыя аўтобусы БГК? Пра чысціню аўтобусаў неабходна паклапаціцца. Яны — таксама візітная картачка горада.

**(яц)**

## Суровае права

Пасля куфля піва нельга ў нашай краіне сядаць на веласіпед. П'яны веласіпедыст трактуецца нашым правам так, як вадзіцель аўтамашыны.

„За ровар” шмат хлопцаў з Нараўчанскай гміны сядзіць за кратамі. Мой сусед сядзіць за тое, што выехаў з панадворка на вуліцу ў п'яным выглядзе. Ён не зрабіў ніякага выпадку. Сядзяць жыхары Масева, Міклашэва ды іншых вёсак. Яны сустрэліся на дарозе з паліцыяй, а суд пакараў іх турэмным зняволеннем.

Шмат хто лічыць, што кара для падвыпіўшага веласіпедыста павінна быць больш лагоднай. „Ровар — не самаход!” — гавораць людзі. Трэба, каб маглады чалавек працаваў, а не сядзеў.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## З Бельска

Пра бельскае аўтатранспартнае прадпрыемства я пісала, што іхнія курсы не ўсе адбываюцца. З гэтым у іх паправілася. Але дайшла справа неабагравання аўтобусаў. У такія маразы, як апошнім часам, калі едзеш у халодным аўтобусе, дык мерзнеш да касцей і аж зубамі ляскаеш! Пытаешся ў шафёра. Ды ён бездапаможны — то абаграванне ў яго нядзейснае, ці што яшчэ не працуе. Наракаюць пасажыры, бо цана білета павялічылася, а камфорт падарожжа не лепшы.

* * *

Каля царквы св. Міхаіла ў Бельску-Падляшскім знаходзіцца прыпынак гарадской камунікацыі, а таксама прыпынак ПКС. Калі глянеш па горадзе — гарадская камунікацыя мае на сваіх прыпынках будкі для пасажыраў, каб маглі схавацца ад дажджу ці ветру. Чаму якраз у гэтым месцы няма якога-небудзь дашка? Можа, хтосьці з Камунальнага прадпрыемства ў Бельску дадумаецца пра гэта? Было б добра! **Ж. М.**

# Адгаданка

### Сарафан

*(Двайны паліндрам)*

З Дунаю вяртаўся казацкі важак,
А ў воддалі дзеўка з вядзерцам ішла.
Вось дзеўка прыстала, і язок прыпынiўся
І _ _ _ _ / _ _ _ _ _ што вады ён напіўся б.
— Прабач, атамане, — шапнула дзяўчо, —
Нясу я да студні пустое вядро.
І полымем палкім шчаку заліла:
— Ах! Каб знала, ды й чарку табе б я нясла.
І вядзерцам махнула, за падол зачапіла
І вочка ў вязанай сукенцы спусціла.
Чапляецца нітка зялёнай травіцы...
Казак гэта ўбачыў, забыў пра вадзіцу,
З каня ён саскочыў, ухапіўся за нітку,
Маток за матком навівае ён кідка...
З падолу звіваецца ўвесь сарафан,
Аж цэлы клубок _ _ _ _ _ _ _ / _ _ _ _ _ _ .

**Падказка:** Адгадваная фраза павінна чытацца аднолькава так з пачатку, як і з яе канца.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 4 нумара**

Горад, Ніш, аналой, Дунай, бой, века, Нурэц, ёрш, неафіт, руіна, Ева, сэр, Ванкувер, пуд, кот, Варна, Іўе, Мінск.

Рашэнне: **Добрае віно руйнуе кашалёк, дрэннае руйнуе страўнік.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 26.02 — 03.03

**(22.03. — 20.04.)** Даволі напружаны тыдзень, звязаны з канфліктамі і рознагалоссем. Адносіны могуць паказацца з ненайлепшага боку, схочацца пабыць у адзіноце. Магчымае расчараванне, перамены, ды неабходныя будуць маральныя высілкі і разуменне, што ў жыцці трэба ўпусціць новае.

**(21.04. — 21.05.)** Тыдзень добры для пачаткаў, асабліва ў матэрыяльнай сферы. Падвядзі перажытае, падлічы даходы і пабудуй планы на будучыню (можаш пачаць іх рэалізаваць ужо пры канцы тыдня). Лады на рабоце, у фінансах, інвестыцыях і каштоўных пакупках. Магчымыя падарожжы, перасяленні.

**(22.05. — 22.06.)** Абдумана расходуй грошы; асабліва ў сярэдзіне тыдня рызыка страты. Прыйдзецца больш парабіць на працы і ў хаце. Будзь цвярозым, не паддавайся эмоцыям, не кідай пачатых спраў. Справішся з усім, калі не паддасіся ўпадніцкаму настрою.

**(23.06. — 23.07.)** Пад канец лютага могуць цябе ўцягнуць у вір прыкрых падзей; не афармляй тады важных спраў. Рамантычны настрой, прыемныя знаёмствы і падзеі ў асабістым жыцці. Добры час і для ўвядзення навінак у старыя знаёмствы. Добра зоймешся хатняй гаспадаркай. Могуць значна направіцца справы ў асабістым жыцці і ўмацавацца адносіны.

**(24.07. — 23.08.)** Да 27.02. вялікая папулярнасць, сімпатыя, адабрэнне. Ды насі вушы востра, каб чагосьці не праваронiць. Лепш не бярыся за складаныя справы, дзе задзейнічае шмат людзей. Рызыкантам лепш сядзець у хаце, бо могуць развальцца надзеі і спадзяванні, могуць змяніцца ўклад жыцця і адбыцца змены, не заўжды прыемныя.

**(24.08. — 23.09.)** Ненайлепшы час на знаёмствы, асабліва ў канцы лютага. Вельмі напружаны перыяд. Пільнуйся здзелак, дамоў, кантактаў з установамі і справамі, звязанымі з вялікай колькасцю дакументаў. І не парушай закону! Можаш памыліцца і ўступіцца не ў цалкам харошую справу. Пазбудзься старых ідэй і чаканняў, якія могуць правакаваць цябе на рызыку і неапраўданыя паводзіны.

**(24.09. — 23.10.)** На працы будуць патрабаваць у цябе большага ўкладу сілы. Гэта напружаны час, які дазволіць закласці асновы твайго фінансавага дабрабыту ці захаваць тое, што ўжо маеш. Можаш разлічваць на падтрымку блізкіх, хатнюю прыхільнасць і аднаўленне сіл. Рэзультат будзе варты працы!

**(24.10. — 22.11.)** У канцы лютага будзеш здольны да экстрэмальнага высілку. Увядзеш некалькі канструктыўных змен. Тыдзень вельмі добры ў асабістых пытаннях. Тэндэнцыя на стабільнасць у адносінах, упэўненасць у людзях, гарманічны настрой. Практычныя здабыткі, накіраваныя на направу хатняга становішча.

**(23.11. — 22.12.)** Да 27.02. зрэалізуеш планы, зменіш свет вакол сябе. Прыліў сілы і імкненняў. Добры час для новага. Можа явіцца табе пуцяводная зорка! Добры пачатак для новай справы, пра якую ты здаўна марыў (асабліва ў творчасці).

**(23.12. — 20.01.)** Пачуеш многа мілых слоў, забавішся ў канцы лютага. Магчымыя азарэнні, новыя ідэі і нечаканыя рашэнні складаных пытанняў. Адкрыюцца перад табой усе дарогі — выбяры і ідзі. Тыдзень добры для новых кантактаў, перамоў і калектыўнай дзейнасці.

**(21.01. — 19.02.)** Спачатку будзеш слабейшы, пі на сон ліпу і вербену. Эмоцыі могуць прывесці цябе да дзеянняў не па правілах і нават не ў карысць сабе, у рэзультаце хвілiннага парыву. Пільнуйся, бо гэта можа адбіцца на тваім становішчы. Пільнуйся ў краме, не спрачайся з блізкімі.

**(20.02. — 21.03.)** Актыўны тыдзень, дзейнасць будзе ляжаць на матэрыяльнай плоскасці. Твая тэма: фінансы, развіццё бізнесу, капіталаўкладанні. Спрыяльныя аспекты для праравы сваёй маёмасці і важкасці ў калектыве; можаш наладзіць карысныя сувязі, выгадныя ў будучыні.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

# XIX Фестываль „Беларуская песня-2012”

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

У гарнізонным клубе 18-га разведвальнага палка ў Беластоку 19 лютага прайшоў цэнтральны агляд самадзейных калектываў і салістаў агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня”, які як конкурс, ведзены Беларускім грамадска-культурным таварыствам, пачаўся 43 гады таму. Пасля адборных павятовых аглядаў у Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы, Сямятычах, Беластоку, Дуброве-Беластоцкай да фінальнага канцэрта дайшоў рэкордны лік 92 выканаўчых адзінак. 30 з іх будуць адабраныя для гала-канцэрта на сцэне Беластоцкага драмтэатра 26 лютага.

Старшынёй журы конкурсу быў кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча Міхал Дрынеўскі. Мерапрыемства дафінансавалі міністр адміністрацыі і лічбавізацыі, маршалак Падляшскага ваяводства, прэзідэнт горада Беластока і Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве.





Валянціна Марціновіч і Віталь Соха




„Калінка” з Беластока



„Жэмэрва” са Студзіводаў



Вера Нічыпарук з Маліннік




„Знічка” з Гайнаўскага белліцэя



Вядучыя Аркадзь Якімюк і Анна Бабік




„Маланка” з Бельска-Падляшскага


ISSN 0546-1960